

Царкоўны спеў у Гайнаўцы→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Фатограф з Ячна→5

http://niva.iig.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 21 (2976) Год LVIII | Беласток, 26 мая 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Чалавек нястомнай працы



Лена Глагоўская з Кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку: «Мікола Гайдук перш за ўсё быў гуманістам, быў уражлівым чалавекам, у першую чаргу на беларускасць. Для яго беларускасць была сэнсам ягонага жыцця. Ён проста выхаваўся ў той стыхіі. Гэта энцыклапедычная постаць, чалавек заўсёднай працы».

Мінае 80-я гадавіна з дня нараджэння і 15-я з дня яго смерці. Сёлета ўшаноўваем памяць Міколы Гайдука — беларускага літаратара, грамадскага дзеяча, фальклapыста, публіцыста, краязнаўцы, педагога, былога дырэктара Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім, аўтара гістарычных эсэ і вершаў, аўтара беларускіх падручнікаў, звязанага з «Нівай», «Часопісам», «**Przeglądem Prawosławnym**», «Фос», нараджэнца Міхалоўскай зямлі. Мультымедыйная выстаўка «Мікола Гайдук — асоба і справа» пачалася 17 мая ва Універсітэцкай бібліятэцы ў Беластоку ў зале Ежы Гедройца. Наладжаная яна Кафедрай беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку пры дапамозе, між іншым, «Нівы». У час памятнага мерапрыемства можна было паглядзець выставу тэкстаў Міколы Гайдука, якія публікаваў у «Ніве», «Часопісе» ды «**Przeglądzie Prawosławnym**». Выставу можна будзе глядзець да 29 траўня. 8 і 9 чэрвеня пройдзе таксама канферэнцыя, прысвечаная памяці Міколы Гайдука, у Міхалове і Бельску-Падляшскім. Плануецца выданне матэрыялаў канферэнцыі ў кніжнай форме.

Мікола Гайдук нарадзіўся 29.05.1933 г. у вёсцы Кабылянка Беластоцкага ваяводства ў сялянскай сям'і. Скончыў агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове (1951). Два гады працаваў у гмінnай управе. З 1953 г. вучыўся ў СССР на філалагічных факультэтах ва ўніверсітэтах Ростова-на-Доне і Ленінграда. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у Мінску (1959), працаваў у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім спачатку настаўнікам беларускай і лацінскай моў, а з 1965 г. — дырэктарам ліцэя. У 1959-1964 гг. адначасова выкладаў беларускую літаратуру на беларускім аддзяленні Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. З 1971 г. працаваў у тыднёвіку «Ніва», у 1971-1986 гг. — публіцыстам, у 1986-1988 гг. — намеснікам галоўнага рэдактара. Сябра Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» (з 1958), сябра Саюза польскіх пісьменнікаў (з 1985). Дэбютаваў у друку вершам у 1957 г. у «Ніве». Аўтар зборніка вершаў на беларускай мове «Ціш» (Беласток 1988), апавяданняў, аповесцей і гістарычных эсэ «Трызна», «Паратунак», «Брэсцкая унія», казак. На польскай мове выдаў «Белавежскія паданні» (Беласток 1990). Выступаў як публіцыст, літаратуразнавец і перакладчык паэзіі з польскай на беларускую мову. Апублікаваў каля 600 уласных запісаў беларускіх песень з нотамі, складаў краязнаўчы слоўнік. Сабраў у наваколлі Белавежы і апрацаваў зборнік беларускіх народных казак, легенд і паданняў «Аб чым шуміць Белавежская пушча» (1982). Сааўтар (з Лідзіяй Гайдук) падручнікаў па беларускай мове для 3, 4, 5 класаў (1962-1987; па 3 выданні) і «Граматыкі беларускай мовы для 5-8 класаў беларускай пачатковай школы» (1975). Узнагароджаны: Кавалерскім крыжам ордэна Адраджэння Польшчы, Залатым і Сярэбраным крыжамі заслугі, медалямі. Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986).

На ўніверсітэцкай выставе прадстаўлена малая частка творчай спадчыны Міколы Гайдука са збораў Універсітэцкай бібліятэкі, Падляшскай ксёнжніцы і з прыватных калекцый: кнігі Міколы Гайдука на беларускай і на польскай мовах, яго навуковыя артыкулы, артыкулы з «Нівы», «Часопіса», «**Przeglądu Prawosławnego**» і „Фос". Паказана багатая калекцыя здымкаў. Лена Глагоўская: „Нам удалося атрымаць вельмі цікавыя гістарычныя здымкі з сямейных збораў, фактычна нікому невядомыя". З архіва Міколы Гайдука, які захоўваецца ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы, Лена Глагоўская паказала на выставе частку лістоў: „Лістоў да яго ёсць 5 вялікіх папак. Гэта была эпоха без інтэрнэту, калі людзі карысталіся традыцыйнай формай карэспандэнцыі. Было б добра, калі б гэтая карэспандэнцыя калісьці была выдадзена. Там маштаб вельмі багаты: гэта беларусы фактычна з усяго свету. Ёсць пісьмы, напрыклад, Зоські Верас, Лявона Луцкевіча, Сяргея Новіка-Пеюна, Арсеня Ліса, прафесара Адама Мальдзіса, пісьмы беларускіх эмігрантаў, таксама ёсць лісты Аляксандры Бергман, прафесар Альжбеты Смулковай, Мацея Канапацкага, Сакрата Яновіча. Гэта крыніца ведаў пра жыццё беларускай эміграцыі, і жыццё на Беласточчыне, і жыццё ў Савецкай Беларусі".



Злева: дачка Міколы Гайдука — Іаанна Пільціцкая, родная сястра — Зінаіда з мужам Мікалаем Садаўнічым

Лена Глагоўская: — Для шмат якіх журналістаў ён можа быць узорам. Хопіць паглядзець яго рэпартажы з паездак у глыбінку, у вёскі. Там жывыя людзі, там дзеецца акцыя, там тысячу праблем.

Яўген Вапа („Ніва"): — Мы пазнаёміліся з ім звыш трыццаць гадоў назад, калі я быў вучнем беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Тады мы ў ліцэі заснавалі дыскусійны гурток беларускіх спраў. Першым госцем у нас быў Сакрат Яновіч, другім — Мікола Гайдук. Адгукнуўся на нашу просьбу, прыязджаў да нас, прывозіў кнігі. Бо ўся наша бяда бярэцца з неадукаванасці. Ніколі таксама не адмовіўся ад прыезду на нашы рэйды, на якіх мы схадзілі Беласточчыну, прыязджаў на нашы сустрэчы ў Варшаву, мы вялі дыскусіі. З павагай да слова і пісання. Цікавіўся нашымі журналісцкімі спробамі, калі мы рабілі „Сустрэчы" і „Прысутнасць", і крытыкаваў, і падказваў. Мы ўваходзілі ў гарманічную пераемнасць, што закладзенае старэйшым пакаленнем дае сілу нашай беларускасці на Беласточчыне".

Юрка Хмялеўскі („Часопіс"): — Мікола Гайдук быў нашым настаўнікам. Я, дзякуючы Міколу Гайдуку, навучыўся пісаць па-беларуску.

Яўген Чыквін („**Przegląd Prawosławny**"): — Меў ён такую рысу: „Працавац!". Рабіў усё што мог — і школа, і падручнікі, і часопісы — дзе яго прасілі дапамогі ва ўсім звязаным з беларушчынай і праваслаўем — не адмаўляўся. Я сустрэў яго пару дзён да яго смерці. Наракаў на здароўе. Ды я яму параіў: „Вы столькі ўжо зрабілі, Мікола Раманавіч, можа менш тае работы? Колькі ж можаце працаваць!". А ён так падзівіўся: „Ведаеце, я беларускі мужык, да скону".

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



# Жывей усіх жывых?

На фоне розных міжнародных падзей мала заўважанай прайшла інфармацыя пра тое, што ў Маскве пасля рэстаўрацыі зноў адчыніўся маўзалей Уладзіміра Леніна. Паводле афіцыйнай інфармацыі ўтрыманне грабніцы правадыра бальшавізму ў год абыходзіцца ў сто тысяч долараў. Сума для сучаснай Расіі смешная, але і за гэтыя грошы можна было б дапамагчы хворым ці дзетдомаўскім дзецям. Беспрытульныя дзеці, дарэчы, так званыя „беспризорники”, з'явіліся менавіта пры Леніне, у выніку яго палітыкі.

У савецкі час культ Леніна быў непахісным, татальным і абсалютным, менавіта ім падмянілі Бога. Маленькі кучаравы хлопчык пазіраў на нас з самага дзяцінства, ён быў паўсюль — на зорачках акцябронкаў, у кніжках і школьных падручніках. Як толькі чалавек падрастаў, ён станавіўся не проста камсамольцам, а членам ВЛКСМ (Всесоюзного ленинского коммунистического союза молодёжи). Усё дарослае жыццё таксама было прасякнутае „самым чалавечным чалавекам” — для простага народу ленінскія прынцыпы і ленінскія суботнікі, для наменклатуры — як вышэйшая адзнака — ордэн Леніна і ленінскія прэміі. А галоўным дэвізам савецкага чалавека мусіла быць „Я себя под Лениным чищу”. Цэлыя пакаленні выраслі на фільмах кшталту „Человек с ружьём”, „Ленин в октябре”. Экскурсійнай вяршыняй быў візіт у маскоўскі маўзалей.

Гэта ўжо потым, у час перабудовы, адкрылася страшная праўда пра сутнасць бальшавіцкага рэжыму і яго правадыра. Ленін стварыў, яшчэ раней за Гітлера, адну з дзвюх найзлачыннейшых ідэалогій у гісторыі XX стагоддзя. Тэрор, як масавая з'ява, паўстаў менавіта ў бальшавіцкай Расіі пасля кастрычніцкага путчу 1917 года. Першыя канцэнтрацыйныя лагеры для іншадумцаў былі створаны менавіта пры Леніне. Сталін працягваў „развіваць” вучэнне марксізму-ленінізму. Цана такой „творчасці” — мільёны ахвяр з розных народаў. Беларусь пацярпела ад наступстваў палітыкі Леніна і яго паслядоўніка Сталіна надзвычай моцна, людскія, матэрыяльныя і маральныя страты проста агромністыя, невымерныя. Паводле ганебных Берасцейскага (1918) і Рыжскага (1921) пактаў беларускія землі рэзалі па-жывому, спрадвечнай беларускай тэрыторыяй Ленін гандляваў як разменнай манетай.

Пасля мноства адкрытых гістарычных фактаў, апублікаваных дакументаў, такіх фільмаў як кінастужка геніяльнага расійскага рэжысёра Аляксандра Сакурава „Цялец”, здавалася, што дзесяцігоддзе катарсісу павінна было карэнным чынам змяніць стаўленне постсавецкіх народаў да Леніна. Але не туды тое. Нядаўна ў Расіі аўтарытэтная сацыялагічная арганізацыя „Левада-цэнтр” правяла адмысловае даследаванне, паводле якога выявілася, што толькі 30 адсоткаў грамадзян Расійскай Федэрацыі падтрымліваюць ідэю ліквідацыі саркафага і пахавання муміфікаванага цела Леніна. Не дзіва, што яны там галасуюць на выбарах за Зюганава ды Пуціна, якія, нягледзячы на знешнія адрозненні, вельмі блізкія адзін да аднаго. Бальшыня беларускіх грамадзян абыякавая да гэтага пытання. Абыякавасць стала адной з галоўных нашых нацыянальных рыс.

Развітанне з Леніным на постсавецкай прасторы страшна зацягнулася. І калі яны кажуць „это наша история” — гэта няпраўда. Ленін — гэта іхняе, а значыць і наша — сучаснае. Розніца толькі ў тым, што раней адкрыта казалася пра ленінскія ідэалы, цяпер яны сарамліва прыхаваны, але лідары постсавецкіх краін — Расіі, Украіны, Беларусі арыентуюцца менавіта на прынцыпы Уладзіміра Ульянава. Таму ў Маскве і не зачыняюць гэты жудасны маўзалей, таму ў Мінску так трымаюцца за станцыю метро імя Леніна, таму на Украіне перыядычна ўспыхваюць канфлікты з-за спроб цывілізавана дэмантаваць помнікі крываваму правадыру. Гэтыя помнікі абавязкова трэба прыбіраць з пляцаў нашых гарадоў і мястэчак, бо яны з'яўляюцца сапраўдным блюзнерствам, здзекам з памяці мільёнаў нявінных ахвяр. Найлепш іх звозіць у адно месца і стварыць музеі таталітарызму, як гэта зрабілі ў некаторых мясцовасцях краін Балтыі. А пакуль у нас Ленін „жыве”, будуць жыць і яго ідэалы.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Маўчанне ў прыцемках

З напісаннем фельетона зусім як з пырнікам. Фельетонная задума ўкараняецца пабегамі канатацый — тут высуне незавершаную рэфлексію, там пакажацца купінка аўтарскай тарабаршчыны, а тут уцячэ ўбок непрадуманым адступленнем, а там заблытаецца паміж складанымі словамі чужой цытаты. Ён жывучы як пырнік і не дай Божа занядбаць прапалку яго лейтматыву. Неўзабаве ўкарэніцца, захопіць роўныя шэрагі выдуманых сказаў. Проста... запальчыва запырэіцца! Нельга дазволіць сабе рассяроджанне, безразважную неасцярожнасць. Чытач мае права патрабаваць ад фельетаніста яснага ходу думкі і асэнсаванага бегу сказаў. Ды як тут пісаць фельетон, калі вясна ўспыхнула ў агародзе? Тут свежапасаджаныя кветкі просяць вады, а памідорыкі дапрашаюцца ўвагі. Зязюлька падспеўвае, і бусел з гнязда клякоча. У мяне трэба яшчэ абляпацца ад камароў. Эх, па ўсёй вёсцы нясецца пляскатанне — як на якім канцэрце...

Фельетон, які чытачы якраз чытаюць, яшчэ не знайшоў сваю тэму. Пакуль я пішу гэтыя словы, канчаецца нядзельны дзень. У скіце айца Гаўрыіла было вялікае свята пасвячэння царквы. Каталікі адзначалі дзень Сашэсця Духа Сятога — «Зялёныя свёнткі». Праз маю вёску, праз якую вядзе адна з дзвюх дарог у скіт, у адзін цудоўны дзень у жніўні працаціла, верагодна, больш аўтамабіляў, чым за тыдзень па Алеі Пілсудскага ў Беластоку. І ўсё ж прыехалі і ў вёску гарадскія імігранты: дзеці, унукі і праўнукі суседзяў. Кожны на ўласным аўтамабілі. Кожны другі — на аўтамабілі лепшым з лепшых. Зайздрошчу ім адчаю даставання рэчаў: машын, кватэр, мэблі, экзатычных падарожжаў. Я ўсё ж задаволены сваёй 130-гадовай і ўжо моцна задрыпанай хаткай, маім цудоўным роварчыкам, купленым у растэрміноўку, і далёкімі паездкамі ў... Нарву.

Пры апошнім вяртанні з паездкі на веласіпедзе я задумваўся, ці Платон запісваў словы ў слова тое, што разважаў Сакрат? Іншымі словамі, наколькі Платон стрымліваў уласны каментар перад Сакратавай мудрасцю? І ці евангелісты запісалі слова ў слова выказванні Ісуса? Размаўляючы калісьці з айцом Гаўрыілам, я пачуў такі мудры сказ: «Да людзей трэба гаварыць у зразумелай форме». Як быццам не было ў гэтым выказванні нічога новага, але, калі ласка, звярніце ўвагу, колькі ў гэтых словах дрэмле патэнцыйных адкрыццяў. Таму што тое, што сказанае, у пэўным сэнсе канчатковае, але надалей бясконцае ў працэсе мыслення слухача. Дзякуючы сваёй адчувальнасці да слоў, стану ведаў і актуальным эмоцыям, стварае ён свой уласны і ўнікальны запіс пачутага. Такім чынам важна, каб узаемадзейнічаць адзін з адным адназначна. Каб не было і так, і не. Хаця... Мы ўсе ведаем, што гэта вельмі цяжка, і нават не ўсё ў евангельскім паведамленні для нас зразумелае. Несумненна, у гэтым ёсць тайна. Але ці тайна не ёсць пачаткам стварання? Што іншае стварыць, а што іншае ствараць. Ці даследаванне раскрывае сутнасць рэчаў, ці проста фармуе іх успрыманне? А ці багаслоўскія даследаванні раскрываюць прыроду Бога ці іс- ціны стварэння свету, ці толькі фармулююць разуменне вяршэнства Бога і справы тварэння?

Гаворачы аб стварэнні, то я культывую сваю справу — мой агарод. Колькі радасці прыносіць мне паліванне кветак і дрэўцаў, разбіванне загонаў, прыстрыгане газона і апырскванне кустоў памідораў! Як мала трэба чалавеку для шчасця! А што такое шчасце? Гэта ўсяго толькі імгненне. Для гэтага няўлоўнага імгнення я гарачуся ў агароднай працы, ламаю пазногці, грабучыся ў зямлі, б'юся з камарамі... Для гэтага, амаль непрыкметнага моманту, калі прысеўшы на садовай лаўцы, ахопліваю маю маленькую, вялікую справу. Калі пачынаюць спяваць салаўі, захаплільна канцэртаваць жабы, дзяркач пачынае дзяркачыць дзесьці ў трыснягу, хатка дружалюбна патрэсквае, а сонца стане ападаць у ціхія прыцемкі, як велічны паветраны шар. Для гэтага адзінага моманту! Чаму для гэтага моманту я гатовы пераносіць горы, вяртаць назад рэкі, засыпаць прорвы? Чаму ж тады словы нічога не значаць, і цішыня з'яўляецца самым мудрым аповедам?

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Сумнавядомыя словы старшыні



З вялікай цікаўнасцю я выбраўся ў апошні час на канферэнцыю па прыгранічным супрацоўніцтве з усходнімі суседзямі Польшчы, сарганізаваную ў Беластоку Міжнароднай асацыяцыяй студэнтаў-юрыстаў (ELSA). Маладыя арганізатары абвясцілі раней: «Наша ваяводства мяжуе з дзвюма краінамі, прычым тут маем справу з мяжой адкрытай у рамках Шэнгенскага пагаднення з Літвой і з мяжой «закрытай», калі гаворка ідзе пра Беларусь. Менавіта гэтыя факты натхнілі нас да таго, каб адказаць на некаторыя важныя пытанні, звязаныя з усходняй мяжой Польшчы». З дакладаў, з якімі я пазнаёміўся (не з усімі) вынікалі даволі відавочныя высновы, да якіх можна дайсці ўжо на працягу некаторага часу: гандлёвы турызм, практыкаваны насельніцтвам Беларусі, на Падляшшы квітнее, але экспарт з Польшчы ў Беларусь сутыкаецца з праблемамі юрыдычнага і палітычнага характару.

Міраслаў Сянкевіч, дырэктар Мытнай палаты ў Беластоку сказаў:

— Часам назіраю ў нашых гіпермаркетах вельмі доўгую чаргу кліентаў з-за ўсходняй мяжы па зварот ПДВ, якую абслугоўвае толькі адна асоба, прытым няветлівая. Цікава, ці гэтыя прадаўцы не разумеюць, што, магчыма, не было б ім месца працы, калі б не тыя людзі ў чарзе.

Паведамляў, што ў мінулым годзе ў Польшчу ўехала амаль восем мільёнаў беларусаў (восем разоў больш, чым палякаў уехала ў Беларусь). Падляшскія прадпрымальнікі адзначылі, што варта пачаць запуск інструментаў падтрымкі турызму таму, што калі нават гэта кліенты ў асноўным буйных міжнародных сетак, усё ж яны купляюць у іх польскія прадукты, абедаюць у нас, і г.д.:

— Лепш за ўсё было б, калі б яны засталіся ў нас на даўжэйшы час.

Віялета Чэмель-Гжыбоўская з Рэгіянальнага сацыяльна-эканамічнага інстытута ў сваю чаргу прывяла даныя, паводле якіх экспарт польскіх усходніх ваяводстваў у Беларусь налічваў у мінулым годзе 891,5 мільёна злотых, у Літву — каля 1,12 млрд., а ў Нямеччыну — 7, 74 млрд. і ў Нідэрланды — 1,5 млрд. злотых.

Асноўныя спрэчкі, калі не сказаць абурэнне, выклікала ўва мне выступленне Вітальда Карчэўскага, старшыні Падляшскай палаты прамысловасці і гандлю. Спачатку ён сказаў:

— У нас няма польскай усходняй палітыкі.

І адразу пасля гэтага перайшоў да заявы ад імя — як можна было разумець — і іншых падляшскіх прадпрымальнікаў:

— Мы не абмяркоўваем ці ў Беларусі выконваюцца правы чалавека ці не. Мы хочам рабіць бізнес.

Калі я пачуў гэта, успомніліся мне заклікі прадстаўнікоў беларускай дэмакратычнай апазіцыі да польскага і шырэй еўрапейскага дзелавога свету, датычныя развагі, якой неабходна прытрымлівацца ў сферы эканамічнага супрацоўніцтва, гандлю з беларускімі фірмамі, каб не падтрымліваць тых, якія прама ці ўскосна падтрымліваюць рэжым Аляксандра Лукашэнкі. Тады я прыйшоў да высновы, што старшыня Карчэўскі перакрочыў мяжу этычных рамак, абавязваючых дзелавы свет. І самае горшае, што прысутны на канферэнцыі Славамір Майсюшка, ад нядаўна ў Беластоку каардынатар Цэнтра міжнароднай дэбаты — агенцтва польскага Міністэрства замежных спраў на пачатку свайго выступлення (гаварыў пасля старшыні Карчэўскага) без ценю сумневу пагадзіўся з папярэднім аратарам. Увогуле не адрэагаваў на гэтую заяву таксама віцэ-старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах і старшыня парламенцкай групы па справах Беларусі Роберт Тышкевіч, калі я паклаў гэтую заяву на яго профіль на фейсбуку (а ведаю, што гэта прачытаў). Прыкрае, калі не сказаць — ганебнае.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Мастацтва і духоўнасць царкоўнай музыкі

Хары і калектывы з Польшчы, Беларусі, Украіны, Сербіі і Грузіі, якія выступілі ў час XXXII Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі — 2013» выклікалі незабыўныя ўражанні ў публікі, якая збіралася ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, дзе з 13 па 18 мая, у вельмі радасны велікодны перыяд прайшла асноўная частка фестывалю. Сабраныя захапляліся мастацтвам царкоўнай музыкі, але важнай была таксама духоўная ангажаванасць харыстаў у час спеву. Асаблівыя малітвы прагучалі з вуснаў прыхадскіх спевакоў, якія падчас багаслужбаў налаўчыліся адначасна звяртаць увагу на правільнае выконванне царкоўнай музыкі і малітву, якую трымаюць у сэрцы. На фестывалі, які адбываецца па благаславенню мітрапаліта варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы і пад ганаровым патранатам прэзідэнта РП Браніслава Камароўскага, выступілі разам 23 хары і калектывы, у тым ліку 21 у конкурснай частцы. Гайнаўскаму мерапрыемству спадарожнічала цудоўнае надвор'е, а ў прыгожыя, вельмі цёплыя і сонечныя маёвыя дні можна было спаткаць побач сабора айчынных і замежных спевакоў і завязаць з імі размову. Такой нагодай карысталіся не толькі журналісты, але і адважнейшыя з ліку публікі, якой частка слухала царкоўны спеў таксама ў пленэрных абставінах, на лавачках побач царквы.

Адкрыццё фестывалю адбылося 13 мая, пасля малітваў, якія ўзначаліў мітрапаліт Сава. Сярод запрошаных гасцей быў адзін з самых вядомых у свеце праваслаўных тэолагаў, мітрапаліт Калістас (Вер) з Вялікабрытаніі, з Канстанцінопальскага патрыярхату. Прыехаў ён у Гайнаўку, каб разам з іншымі сёлетнімі лаўрэатамі атрымаць узнагароду імя князя Канстанціна Васіля Астрожскага. Выступаючы перад сабранымі, мітрапаліт Сава звярнуў увагу на прыгожасць царкоўнай музыкі і яе вялікае значэнне як духоўнай малітвы і пахваліў арганізатараў фестывалю за цяжкую працу ў карысць Царквы і грамадства. Дырэктар фестывалю мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч і бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак цёпла прывіталі сабраных.

— Гайнаўка, што зіхаціць у маёвым сонцы і пасхальнай радасці, з адкрытым сэрцам вітае ўсіх прыбылых на чарговы, XXXII Міжнародны фестываль «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі». Фестываль, які замацаваўся ў традыцыі і гісторыі нашага горада, стаў святам Падляшша, месцам сустрэч розных культур і традыцый, абмену вопытам, завязвання сяброўства і супрацоўніцтва, — гаварыў айцец Міхаіл Негярэвіч.

Складаным рэпертуарам і высокім узроўнем выступу публіку ў гэты дзень захапілі лаўрэаты мінулагодняга фестывалю — акадэмічны хор Політэхнічнага інстытута ў Варшаве і хор прыхода Успення Прасвятой Багародзіцы ў Бельску-Падляшскім. Конкурсныя слуханні распачаліся з выступаў хору прыхода Пакрова Божай Маці ў Дубічах-Царкоўных (заняў трэцяе месца і стаў самым лепшым выканаўцам у катэгорыі вясковых хароў) і хору прыхода св. апостала Іаана Багаслова ў Орлі (атрымаў вылучэнне), якія вылучаюцца сярод нашых вясковых хароў стройным спевам. Запрэзентавалі яны спакойны малітоўны рэпертуар, які ўзрушыў сабраных.

— З ліку вясковых хароў мне асабліва спадабаўся выступ хору з Дубіч-Царкоўных, які добра запрэзентаваўся, — заявіў пасля выступу ўсіх вясковых хароў член конкурснай камісіі Ірыней Лаўрашук, дырыжор хору прыхода Успення Прасвятой Багародзіцы ў Бельску-Падляшскім. У катэгорыі прыхадскіх гарадскіх хароў на свой спосаб цікава запрэзентаваліся харысты з Гайнаўскі, Беластока (хор Свята-Духаўскага прыхода заняў трэцяе месца), Сямятыч і Ольштына, а таксама замежнікі з Беларусі, Украіны (хор «Праабражэнне» з Кузняцоўска заняў трэцяе месца) і Сербіі. Гайнаўская публіка асабліва чакала выступаў хароў са свайго горада і таму незабыўныя ўражанні выклікалі ў іх дзіцяча-маладзёжны хор «Васкліканне» з прыхода Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля (таксама трэцяе месца) і хор Свята-Троіцкага сабора, абодва з Гайнаўкі (другое месца, самае лепшае сярод прыхадскіх хароў з Польшчы), якія выступілі таксама на высокім мастацкім узроўні.



Гран-пры фестывалю атрымаў хор студэнтаў Маскоўскай нацыянальнай кансерваторыі імя Пятра Чайкоўскага

— Хваляваліся мы перад конкурсным выступам, але лічым, што нядрэнна нам атрымалася. Раней выступалі ў сваіх касцюмах, а сёння першы раз запрэзентаваліся ў новапашытых уборах і мы рады гэтаму. Можна сказаць, што ў нашым прыхадскім хоры спяваюць тры пакаленні людзей, але атмасфера вельмі добрая, — сказала адна з наймалодшых харыстак са Свята-Троіцкага сабора, а яе сяброўка пахваліла дырыжора, дыякана Паўла Коршака за плённую працу з харыстамі перад фестывалем.

— Важна, што выступілі мы з цікавым і малітоўным рэпертуарам. У час фестывалю мы слухаем спеву іншых выканаўцаў і як харысты вучымся таксама нованаму. Я, напрыклад, у час нашага гайнаўскага фестывалю штораз больш адкрываю прыгожасць царкоўнай музыкі і заахвочваю сваіх знаёмых, каб прыходзілі ў сабор і захапляліся прыгожым спевам, — сказаў старшыня гайнаўскага аддзялення Брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія Адам Чурак, што таксама выступаў з гайнаўскім хорам. Ужо традыцыйна, з ліку замежных удзельнікаў конкурсу найбольш было выканаўцаў з Беларусі, хаця па колькасці харыстаў саступілі яны Расіі. На высокім узроўні і ў малітоўным духу выступіла харавая капэла «Светач» з Барысава (заняла трэцяе месца), што ацэньвалася ў катэгорыі іншых хароў. Нават член конкурснай камісіі Ірыней Лаўрашук пасля выступу капэлы заявіў, што «Светач» ведае што спявае і робіць гэта на высокім узроўні, але дабавіў, што ў час фестывалю капэла не выкарыстала ўсіх сваіх магчымасцей.

— Мы прыехалі сюды не за перамогай, а каб пабываць на вялікім музычным царкоўным мерапрыемстве і вучыцца ад іншых выканаўцаў выконвання царкоўнай музыкі. Уразіла нас вельмі добрая арганізацыя фестывалю, — заявіла дырыжор з Барысава Аксана Задарожная.

На вельмі высокім узроўні выступілі і запрэзентавалі цікавы рэпертуар вакальны калектыў «Элегія» з Дзяржынска і мужчынскі вакальны калектыў «Благавест» з Мінска (абодва з Беларусі) і сталі раўнапраўнымі лаўрэатамі другой узнагароды ў катэгорыі іншых хароў, дзе першай узнагароды камісія не прызначыла. Мужчынскі калектыў «Благавест» дзейнічае пры выдавецтве Беларускага экзархата Маскоўскай патрыярхіі ў Мінску ад 2008 года. І хаця ў яго рэпертуары ёсць таксама народныя песні, то спявае перш за ўсё царкоўныя творы ў час багаслужбаў і царкоўных урачыстасцей. Трэцяе месца ў катэгорыі іншых хароў заняў хор «Cantus Olaviensis» з Алавы (Польшча). Удала, як на вясковыя магчымасці, запрэзентаваўся вакальны калектыў «Амафор» (атрымаў вылучэнне), што спявае ў час багаслужбаў у вясковай Пакроўскай царкве ў Рудніках, а з 2009 года дзейнічае таксама пры Доме культуры ў Пружанах. З-за складанасцей з атрыманнем віз не прыехалі ў Польшчу дзве асобы з гэтага калектыву і таму выступіў ён толькі ў складзе чатырох чалавек.



Хор Першага Бялградскага музычнага аб'яднання з Сербіі заняў першае месца ў катэгорыі прыхадскіх гарадскіх хароў

— Ваш гайнаўскі фестываль вельмі паважаны ў Беларусі і мы рады, што чарговы раз тут выступаем і маем магчымасць слухаць царкоўную музыку на высокім узроўні ў выкананні іншых спевакоў. Мы выступаем таксама ў нашым доме культуры, але калі спяваем у царкве, душа асаблівая радуецца, — сказала дырыжор калектыву з-пад Пружан Наталля Карсанюк.

— У гэтым годзе не багата хароў з Беларусі, але мне асабліва спадабаліся выступы хору з Барысава і вясковага калектыву з-пад Пружан, які ўразіў сваім душэўным, малітоўным спевам, — сказаў член конкурснай камісіі прафесар Міхал Дрынеўскі з Мінска (яшчэ да выступу калектыву «Благавест»).

Ірыней Лаўрашук пахваліў перш за ўсё выступы акадэмічных хароў з розных краін, якія, паводле яго, апошнім часам побач высокага ўзроўню спеву, штораз большую ўвагу звяртаюць на духоўнасць прэзентаванай імі царкоўнай музыкі. У гэтым годзе на вельмі высокім узроўні выступілі менавіта тры акадэмічныя хары з Расіі. Сусветнай славы хор студэнтаў Маскоўскай нацыянальнай кансерваторыі імя Пятра Чайкоўскага бясспрэчна перавышаў усіх сёлетніх выканаўцаў вельмі высокім мастацкім узроўнем і віртуознасцю беззаганнага спеву. Захапіў ён журы і конкурсную публіку і атрымаў Гран-пры фестывалю.

— У нашым хоры 80 спевакоў, але ў Гайнаўку прыехалі мы ў складзе 36 чалавек. Мы выконваем разнародную музыку, розных культур і стыляў, але засяроджваемся ў галоўным на расійскай музыцы. Паколькі нашая руская культура спалучаная з праваслаўем, асобае месца займае ў нас царкоўная музыка, — сказаў прафесар Станіслаў Калінін, дырыжор студэнтаў Маскоўскай нацыянальнай кансерваторыі.

На высокім узроўні і цікава запрэзентаваліся таксама два іншыя хары з Расіі — хор дырыжорскага аддзялення Тэалагічнай акадэміі з Ніжняга Ноўгарада (першае месца сярод акадэмічных хароў) і камерны хор «Класік» Ялецкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Івана Буніна (трэцяе месца). Цікава было таксама паслухаць царкоўную музыку ў выкананні добравядомых гайнаўскай публіцы акадэмічных хароў з Польшчы, якія паказалі высокі ўзровень спеву — «Поліфаніі» з Політэхнічнага інстытута ў Беластоку (другое месца) і «Bel Canto» з Вышэйшай школы інфарматыкі і эканоміі ў Ольштыне (таксама другое месца). Дырыжорам «Bel Canto» з'яўляецца выпускнік Бельскага белліцэя Ян Палавянюк, які ў час сёлетняга фестывалю таксама ўдала выступіў дырыжорам хору праваслаўнага прыхода Пакрова Божай Маці ў Ольштыне. Сярод прыхадскіх гарадскіх хароў на вельмі высокім узроўні і цікава запрэзентаваўся хор Першага Бялградскага музычнага аб'яднання з Сербіі (заняў першае месца), які дзейнічае ажно з 1853 года. У катэгорыі іншых хароў вельмі арыгінальна і цікава выступіў хор «Лагушэда» з Тбілісі (Грузія), якому журы прызначыла спецыяльную ўзнагароду. Дырыжор маладых дзяўчат Тацяна Мегрэлідзе сказала, што выступаюць яны са старажытнай царкоўнай музыкай, якая выводзіцца яшчэ з першага тысячагоддзя хрысціянства, але запісвалася ў Грузіі ў XVII-XVIII стагоддзях і зараз паўсюдна выконваецца ў цэрквах Грузінскага патрыярхату.

Арганізатары гайнаўскага фестывалю — Грамадскі арганізацыйны камітэт, Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі» і Гайнаўскі дом культуры — ставяць на шырокае прапагандаванне прыгожасці царкоўнай музыкі, а побач гэтага прапануюць таксама выступы з народнай і сучаснай музыкай у выкананні ўдзельнікаў фестывалю. Самыя лепшыя выканаўцы царкоўнай музыкі выступілі 18 мая на галоўным гала-канцэрце ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы і на другім гала-канцэрце 19 мая ў царкве Агія-Софія ў Беластоку. Хары выступалі таксама на фестывальных канцэртах у Бельску-Падляшскім, Гарадку і Чаромсе. Народнай музыкай у выкананні конкурсных удзельнікаў фестывалю захапляліся мясцовыя і прыезджыя ў час «Фальклорнай бяседы», якая адбылася ў Асяродку лясной адукацыі «Ягелонскае» ў Белавежскай пушчы, у Белавежскім нацыянальным парку і ў гайнаўскім амфітэатры, дзе прагучала таксама сучасная музыка. Фестывальная публіка магла таксама паглядзець дзве выстаўкі — «Колеры праваслаўя. Сербія» і «1938. Акцыя бурэння праваслаўных цэркваў на Холмшчыне і поўдні Падляшша».

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## XXXII Międzynarodowy Festiwal Muzyki Cerkiewnej — „Hajnówka 2013”

Opera i Filharmonia Podlaska, Białystok, ul. Podleśna 2

PRZESŁUCHANIA KONKURSOWE
23.05.2013 (czwartek) godz. $17^{00}$

**Męski Zespół Wokalny** — Kaliningrad (Rosja)
**Chór Cerkwi Uspieńskiej** — Warszawa (Polska)
**Katedralny Chór „Carmen”** — Białystok (Polska)
**Zespół Solistów „Rostov-Don Art Music”** — Rostów (Rosja)
**Kameralny Chór Dziecięcej Szkoły Chóralnej** — Mieżdurieczieńsk (Rosja)
**Młodzieżowy Chór Kameralny „Eleos”** — Ostróg (Ukraina)
**Chór Męski „Słowiki 60” im. J. Szyrockiego** — Szczecin (Polska)
**Chór Komendy Wojewódzkiej Policji w Białymstoku** — Białystok (Polska)

24.05.2013 (piątek) godz. $17^{00}$

**Dziecięcy Chór „Raduga” Tallińskiego Centrum Twórczości „Kułło”** — Tallin (Estonia)
**Dziecięca Ludowa Kapela Chóralna „Zorinka”** — Tarnopol (Ukraina)
**Dziecięcy Chór Liceum Muzycznego im. Cz. Porumbesku** — Kiszyniów (Mołdawia)
**Chłopięcy Chór Narodowej Akademii Muzycznej Ukrainy im. P. Czajkowskiego** — Kijów (Ukraina)
**Wzorcowy Chór „Sonet” Dziecięcej Szkoły Muzycznej** — Grodno (Białoruś)
**Chór Mieszany „Slavonick Sounds”** — Sofia (Bułgaria)
**Kameralny Żeński Chór Państwowego Koledżu Muzycznego** — Lida (Białoruś)
**Akademicki Chór „Soniacznyj Strum” Państwowej Wyższej Szkoły Muzycznej** — Nikołajew (Ukraina)
**Chór Kameralny Moskiewskiego Państwowego Uniwersytetu Kultury i Sztuki** — Chimki (Rosja)

25.05.2013 (sobota) godz. $16^{00}$

**Chór Męski Towarzystwa Śpiewaczego „Lira”** — Warszawa (Polska)
**Kameralny Chór „Baltika” Sosnowoborskiej Szkoły Sztuk** — Sosnowyj Bor (Rosja)
**Ensemble „QuattroVoce”** — Białystok (Polska)
**Męski Chór „Unia”** — Mińsk (Białoruś)
**Państwowy Chór Naddniestrzański** — Tyraspol (Mołdawia)
**Akademicki Kameralny Chór im. D. Bortniańskiego** — Czernihów (Ukraina)
**Akademicki Kameralny Chór Państwowej Filharmonii** — Kostroma (Rosja)

ZAKOŃCZENIE FESTIWALU
26.05.2013 (niedziela)

**godz. $14^{30}$ Ogłoszenie wyników i wręczenie nagród**
**godz. $16^{00}$ Koncert Galowy**

# Рэзідэнцыя Сапегаў у Дубне

16 мая г.г. у беластоцкай ратушы, галоўнай сядзібе Падляшскага музея, адбылося адкрыццё выстаўкі „Між Каронай і Літвой; асновы рэзідэнцыі Сапегаў у Дубне”. Сама рэзідэнцыя размяшчалася каля двух кіламетраў за сённяшняй вёскай, недалёка цяперашняй дарогі з Боцькаў у Краснае Сяло. І яшчэ дзесяць гадоў таму не было ўжо па сутнасці і слядоў ад яе.




Сляды захаваліся ў дакументах. І вось на аснове дакументаў з дапамогай сучаснай тэхнікі, м.інш. магніталакацыі і авіяфатаграфіі, абследаваўшы тэрыторыю плошчаю каля дванаццаці гектараў, удалося ўстанавіць месца былой рэзідэнцыі і ў 2005 годзе пачаць археалагічныя раскопкі. Гэтыя даследаванні праводзіў беластоцкі Падляшскі музей у супрацоўніцтве з Інстытутам археалогіі Лодзінскага ўніверсітэта; да прац падключаліся таксама вучоныя з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. І ў выніку, як міфічны Фенікс з попелу, пачалі паказвацца ў зямлі асновы колішняй магнацкай рэзідэнцыі ў Дубне.

Фальварак у Дубне існаваў ужо ў XVI стагоддзі, а яго найбольшы росквіт выпаў на першую палову наступнага стагоддзя. Уласнікам маёнтка быў м.інш. першы падляшскі ваявода Іван Сапега. Гаспадарка была накіравана галоўным чынам на вырошчванне жыта і аўса; гэтае збожжа пасля везлі ў парты Мельніка і Нура ды адпраўлялі водным шляхам у Гданьск і Каралевец. Для ўласных патрэб у фальварку гадавалі кароў і свіней ды вырошчвалі лён і каноплі. Працавалі фальварачныя работнікі ды прыгонныя сяляне з Дубна, Нурца, Малочак, Пятроўшчыны і Коснага. Рэзідэнцыя ў Дубне была адным са шматлікіх такіх аб’ектаў, якія паўставалі на памежжы Кароны і Княства, м.інш. была ў многім падобная на рэзідэнцыю Радзівілаў у Орлі. З другой паловы XVII стагоддзя фальварак знаходзіўся пад наглядам арандатараў і паступова траціў свой бляск. Але яшчэ ў XIX стагоддзі была там пабудавана другая на тэрыторыі сённяшняй Польшчы цукроўня; на вялікі жаль, працавала яна нядоўга...

Іван Сапега быў відным дзяржаўным дзеячам Вялікага Княства Літоўскага. Пачаткі роду Сапегаў дакладна невядомыя. Магчыма, што выводзіўся ён са Смаленшчыны або Масковіі. Іван быў сынам Сымона, які ў 1512 годзе памяняў ранейшыя свае ўладанні каля Драгічына (м.інш. Наройкі, Чаі ды Брыкі) на Дубна. Іван да таго часу займаў розныя высокія пасады ў Вільні, а пастановай караля Жыгімонта Старога ад 29 жніўня 1513 года быў назначаны арганізатарам новага ваяводства, Падляшскага, якое ахапіла тагачасныя Драгічынскую, Мельніцкую, Бельскую, Камянецкую, Кобрынскую і Берасцейскую землі; падляшскім ваяводам аставаўся ён аж да смерці ў 1517 годзе.

Найважнейшым збудаваннем рэзідэнцыі была г.зв. вялікая камяніца, пабудаваная каля 1630 года за сродкі Мікалая Кшыштафа Сапегі. Быў гэта двухпавярховы будынак з падвалам і гарышчам, узведзены на каменным падмурку з цэглы. Апрача яе быў яшчэ будынак уласна двара, драўляная капліца, карчма для чэлядзі частых гасцей і іншыя збудаванні.



Кафля з Дубна



Металічныя прылады знойдзеныя ў Дубне

Інвентар з 1646 года так апісваў дворскую капліцу: „... kaplica z babińcem, drzwi troje... Chór balasami opierzony. Wewnątrz w kaplicy ołtarz ze wszystkiem conterfectu Zwiastowania Przenajświętszej Panny, lichtarzów dwa drzewnianych, ławek pojedynkowych cztery, z osobna zwyczajne stolarskiej roboty dębowe, znowu na ścianie obrazów malowanych na płótnie dwa, to jest św. Kazimierza i Najświętszej Panny, prócz innych drobniejszych tak na papierze jako i na płótnie malowanych...”

Апрача інфармацыйных стэндаў і вітрын са знойдзенымі археалагамі прадметамі можна пабачыць і візуалізацыю цэлага дворскага комплексу, які калісь красаваўся на сённяшніх палях. Выстава, прымеркаваная да 500-гаддзя Падляшскага ваяводства, пад ганаровым патранатам маршалка Яраслава Дважанскага, будзе працаваць да канца кастрычніка бягучага года.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Вось якая культура!...

10 траўня падарожнічаў я з чыгуначнага вакзала ў Беластоку на гарадскім аўтобусе № 2. Выйшаў я на прыпынку Мальмеда-Заменгофа. Паколькі да восьмай гадзіны (калі журналісты ў „Ніве” пачынаюць працу) заставалася амаль пяцьдзесят мінут, прысеў я на лавачцы гарадскога сквера насупраць паркавага фантана і помніка Людвіку Заменгофу. Стаяла цёплае, сонечнае надвор’е. Раннюю цішыню спыняў адно рэзкі грукат праязджаючага аўтамабіля ці аўтобуса. Разглядаюся навокал. Ні жывой душы. І паразіла мой зрок нязёмкае відовішча: па ўсім скверы на прыстрыжанай зялёнай мураве валяліся кучы фольгавай і папяровай упакоўкі з-пад бутэрбродаў, з якой рэзкі вецярок гуляў у жмуркі. Ці ж гэта не сорам жыхарам ваяводскай метраполіі? Што скажуць приезджыя турысты, калі пабачаць такую візітную картачку побач помніка сусветнай славы стваральніку мовы эсперанта Людвіку Заменгофу, якім ганарыцца Беласток? Дзе парадкавая служба?.. Гарадская стража, якая назірае за правапарадкам у горадзе? Праўда, дзесяць мінут пазней з’явіўся рослы мужык у камбінезоне з дзіўным прыборам, падобным на падхватнік для лоўлі рыб. „Няўжо ў фантане водзіцца рыба?” — мільганула думка. І сапраўды, камунальшчык, падоўжыўшы рукаятку прыбора, закінуў сетку ў ваду і выцягваў адтуль... гразь. Гэты занятак выконваў ён некалькі мінут, пакуль вада не стала празрыстай. Затым пачаў мыць бетоннае акружэнне. Начышчаў абрамаванне да бляску, а на канец пачаў шчоткай замятаць наваколле фантана. Калі закончыў свой занятак, на маё здзіўленне, смецце згарнуў... пад стаячую побач лавачку. Вось якая культура гарадской камунальнай службы!

**Уладзімір СІДАРУК**

# Фатограф мінулай эпохі

Дзякуючы здымкам Янкі Сівіцкага захаваўся вобраз беларускіх вёсак з-пад Дубровы-Беластоцкай у XX ст. Называлі яго ў родным Ячне „сваім фатографам”, „вясковым фатографам”, аднак напэўна можна яго лічыць прафесіяналам. Яшчэ да Другой сусветнай вайны атрымаў ён грунтоўную адукацыю ў гродзенскага яўрэя. Да сёння ў многіх хатах Ячна і навакольных вёсак можна знайсці здымкі, зробленыя Янкам Сівіцкім. Гэта нярэдка адзіная памятка па продках і забытых часах мінулай эпохі.



Фота Улі ШУБЗДЫ

Галя Сівіцкая са шлюбным партрэтам

Здымак зроблены Сівіцкім перад царквой у Ячне



Янка нарадзіўся ў Іркуцку. Яго бацькі Шымко і Маня выехалі з роднага Ячна ў бежанства ў 1915 г. Сям'і Сівіцкіх на чужыне, як нямногім, пашанцавала настолькі, што заўсёды ў іх было што з'есці. Шымко працаваў у мясцовым рэстаране, у якім атрымліваў „менажку (кацялок) шмальцу”.

— Калі яны вырашылі вярнуцца ў родныя старонкі, людзі, з якімі Шымко працаваў у Іркуцку, не хацелі яго адпусціць, — успамінае пляменнік Янкі, Аляксандр Сівіцкі. У час доўгага падарожжа на радзіму маленькі Янка навучыўся хадзіць. Першыя крокі паставіў у цягніку, які ехаў з глыбокай Расіі на бацькаўшчыну.

Шымко, бацька Янкі, як гавораць у Ячне, быў „майстравіты”. Сам пасля прыезду з Іркуцка паставіў новую драўляную хату. Таксама сам паклапаціўся пра вокны і дзверы, якія былі зроблены надта дакладна.

— Шымко быў цясляр і сталяр летам, а зімой — шавец, — узгадвае Аляксандр Сівіцкі. — Такі спасобны быў!

Каб забяспечыць сям'ю, апрацоўваў яшчэ чужую зямлю сістэмай „на трэці сноп”.

— Клапаціўся, адным словам, — узгадвае братавая Янкі, Галя Сівіцкая. — Шымко і пчаляр быў. Вуллёў меў многа. Стараліся і неяк жылі.

Шымку і Мані, апрача Валодзі і Янкі, нарадзіўся яшчэ адзін сын — Волесь. Цяжкія роды спрычыніліся да таго, што Маня пасля трох тыдняў памерла. Шымко, ведаючы, што самому будзе цяжка выхаваць трох сыноў, вырашыў яшчэ раз ажаніцца. З другой шлюбнай жонкай меў аднаго сына — Паўліка. Клапоцячыся пра будучыню сыноў, Шымко жыў вельмі ашчадна. Планаваў пабудаваць дзецям хату ў Дуброве-Беластоцкай.

— Збіраў грошы, назбіраў цэлы „пукель” рублёў, — успамінае Аляксандр Сівіцкі. — Аднойчы ўсталі ноччу і даведаліся, што памянялі валюту. І ўсё прапала. Пазней гэтыя рублі бабка спаліла ў печы.

У ваенны перыяд немцы, якія адступалі, прытрымаліся ў Ячне якраз у хаце Сівіцкіх. Уся сям'я ў той час хавалася ў склепе. Рускія напалі з-за ракі. Адзін снарад упаў каля стадолы, другі на вуллі, а трэці забіў Шымка, які ў той час для немцаў рубаў дровы, якія патрэбныя былі, каб зварыць абед.

— Шэсцьдзесят чатыры гады яму было, — успамінае пляменнік Янкі, Аляксандр. — Усе зубы меў. Усе зубы!

Шымко разумеў, што для ўсіх сыноў на гаспадарцы не будзе месца, таму паслаў Янку ў Гродна, дзе ў яўрэя меў вучыцца фатаграфаванню. Янка хутка стаў найлепшым вучнем і настолькі спадабаўся настаўніку, што той хацеў ажаніць яго са сваёй дачкой. Аднак Янка пасля двух гадоў навукі ў Гродне вярнуўся ў роднае Ячна кавалерам.

— І не ажаніўся. А дзявок меў... І вучаны быў, і дзяўчаты былі файныя, і ўсё, — успамінае братавая Янкі, Галя Сівіцкая. — Ну і так яму не складалася, адным словам. Як ён толькі палюбіць якуюсь, то хтосьці другі падаб'ецца і ажэніцца.

Янка жыў у бацькоўскай хаце. Там меў патрэбныя прылады, якімі карыстаўся пры выраблянні здымкаў і партрэтаў. Цяжкімі шторамі засланяў невялікія вокны ў адным з пакояў, які быў прыстасаваны на фоталабараторыю.

— Ён сядзеў і цэлы дзень рабіў гэтыя здымкі, — успамінае Галя Сівіцкая. — То ж гэта трэба было, каб ніводнай зморшчыны на партрэце не было! І вэлюм шлюбны дарабіць і ўсё кругом. Мужа ўжо няма, а я да сёння маю свой шлюбны партрэт. На сцяне вісіць.

Амаль у кожнай хаце ў Ячне і наваколлі можна знайсці здымкі ці партрэты, зробленыя вясковым фатографам Янкам Сівіцкім. Людзі запрашалі яго на пахаванні, шлюбы ды іншыя сямейныя мерапрыемствы. Вядома, што Янка дорага не браў за паслугу, таму амаль кожны селянін мог запрасіць Янку зрабіць фатаграфіі. Да сёння захаваліся яшчэ здымкі з перыяду Другой сусветнай вайны. На гэтых добра відаць сацыяльнае і бытавое становішча беларускіх сялян. Відавочна, беларусам з-пад Дубровы важным было, каб затрымаць на здымках апошняе развітанне з блізкімі. Таму да сёння захавалася большасць фатаграфій з пахаванняў. На адным перад драўлянай хатай стаіць труна з пажылым нябожчыкам. Вакол яе сям'я, аднавяскоўцы без абутку, хаця на зямлі ляжыць ужо тонкі пласт снегу. Сабраныя вакол труны не плачуць, сур'ёзна глядзяць у аб'ектыў Янкавага фотаапарата.

На пазнейшых здымках з пахаванняў відаць, што людзям жывецца лягчэй. Усе маюць адпаведную да надвор'я вопратку. Таксама вочы сямейнікаў звернуты на нябожчыка. Некаторыя твары лёгка скрыўленыя ад плачу і смутку па нябожчыку.

Янка пакінуў па сабе здымкі, якія да сёння выклікаюць усмешку на твары. Спадарыня Х. з Ячна паказвае здымак, на якім стаяць чатыры маладыя дзяўчыны.

— Гэта я, а тут мая сяброўка Жэня, тут яшчэ Лілька і Лёнька. Гэта Янка нас паставіў пад царквой і сказаў, што будзем ведаць, які наш рост. Лёнька найменшая.

Янка рабіў здымкі да канца. Хаця ў апошнія гады жыцця ўжо не так многа, чым раней. Людзі сталі купляць сабе фотаапараты, якія не патрабавалі ўжо вышэйшай навукі, каб зрабіць дастаткова добры здымак.

— Меў многа работы, — узгадвае Галя Сівіцкая. — Часам не з усім спраўляўся.

Было гэта 19 лістапада 1995 года. Якраз у Польшчы праходзілі прэзідэнцкія выбары. Хаця зямля была ўжо скаваная лёдам, Янка сеў на ровар і паехаў на выбарчы ўчастак у Дуброву-Беластоцкую. Прагаласаваў, але дахаты ўжо не вярнуўся. Забіў яго машынай дваццацігадовы мужчына з суседняй вёскі.

З пахавання Янкі Сівіцкага нямя ніводага здымка.

**Уля ШУБЗДА**

## Вясна пахне зёлкамі

Цяпер вясна ў разгары і многія жыхары вёсак пачалі збіраць зёлкі. Я наведаў пункт скупкі лекавых раслін гайнаўскай прыватнай суполкі „Руно” ў Плянце (Нараўчанская гміна). Шосты год вядзе яго Галіна Бірыцкая.

— У мяне вопытныя збіральнікі ўжо сёлета прадалі шмат кілаграмаў кары вярбы (яе найбольш), пупышак сасны, лісця брусніцы, карэння пяцёрніка (дуброўкі) і іншых раслін, — сказала яна. — Я зараз дасушваю цвет стакроткі. Вядома, на продаж. Кожны год шмат яе расце ў маім агародчыку.

У мінулым годзе на пункт скупкі ў Плянце збіральнікі лекавых траў прыносілі 24 віды гэтых раслін, між іншым, зелле палявога братка, крываўніка, палыну, крапівы, святаяннніка, сардэчніка і палявога хвошчу, ягады чырвонай рабіны, ліпавы цвет, цвет стакроткі, верасу, васілька (валошкі) і парыла (тавулы), кару крушыны і вярбы ды карэнне адуванчыка-дзьмухаўца і крапівы.

На зёлках можна зарабляць. Дастаткова хацець, мець крыху ведаў пра лекавыя расліны і пра спосабы іх сушэння. Калі збярэм больш лекавых раслін, тады на нашым рынку будзе больш зёлкавых лякарстваў. Зёлкі выкарыстоўваюцца ў фармацэўтычнай, касметычнай і харчовай прамысловасці (у той апошняй у мясных прадпрыемствах ды ў цукраварнях).

## Збірайце зёлкі

Зараз вясна і можна збіраць самыя розныя лекавыя зёлкі. Ёсць магчымасць зарабляць. Збіральнікі павінны здабыць крыху ведаў пра гэтыя расліны ды спосаб іх сушэння. Таму варта наведаць бліжэйшыя да сваёй мясцовасці пункты скупкі зёлак суполкі „Руно” ў Гайнаўцы. Напрыклад, у Нараўчанскай гміне ў вёсцы Плянта. Там можна даведацца, што і як, узяць спісак лекавых раслін і цэннік.

Зараз „Руно” плаціць за кілаграм сухога карэння лопуху — 10 злотых, дзьмухаўца — 12 зл., аеру — 15 зл., крапівы — 5 зл., лісця брусніцы — 10 зл., лісця бярозы — 3,50 зл., кары крушыны — 2,50 зл., ды дуба і вярбы — па 2 зл., а за лісточкі амялы — 7,50 зл. за кілаграм. Можна збіраць парасткі сасны, кілаграм якіх каштуе 10 зл. За кілагам кветак каштана можна зарабіць 20 зл., а стакроткі — 28 зл.

У маі, чэрвені і ліпені будзе процьма зёлак і можна на іх зарабляць. Дык збірайце зёлкі!

## Вярнулі зуброў

Тры прыгожыя вялікія зубры-макеты паставілі ў Гайнаўцы над рачулкай Лесная ды ля скрыжавання вуліц С. Баторыя, Спартыўнай і а. А. Дзевятоўскага (тут кругавы рух) у 2007 годзе. Імі вельмі пацікавіліся хуліганы і яны пачалі збіваць рогі. Кожны год. Тут на слупе прымацавалі камеру для маніторынгу, але хуліганы і так руйнавалі макеты.

У пачатку гэтага года калекія макеты зуброў забралі. Але вось прыйшоў май, а ў ім кожны год маем Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Прыемна тады ўбачыць зноў зуброў — іх акуратна аднаўленых вярнулі на ранейшае месца. Зараз два зубры, а было тры. Але гэта нічога. Добра, што гэты атракцыён існуе. Насуперак хуліганам.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Дзіцячыя, ды не толькі, песні...

Звычайна, пасля Вялікадня, успыхае ў нас процьма ўсякіх фестываляў, конкурсаў, аглядаў, турніраў. Свой фестываль маюць нават дашкольнікі. Вось, 16 мая г.г., у беластоцкай сядзібе БГКТ, прайшоў ужо IX Фестываль для нацыянальных меншасцей Падляшша. На выступленні з'ехаліся дзеці з Бельска, Гайнаўкі, Пуньска і Беластока. У гэтым месцы трэба сказаць, што далёкая дарога не адбірае сілы, магчыма, адбываецца нешта адваротнае. Самым прыгожым, жывым і акуратным выступленнем лічу выступленне маленькіх літоўцаў з Пуньска. У чым заключаўся іх поспех? Дзеці заспявалі жыва, у рытме, з весялосцю і дзіцячай шчырасцю. Для гэтага хапіла тры асобы! Аж люба было пaглядзець на іх нацыянальныя, густоўныя касцюмы, дзе не было выпадковых дадаткаў і колераў.

Іначай паказаліся маленькія прадстаўнікі рускай культуры, якія выйшлі на сцэну з песняй часоў айчыннай вайны „Кацюша”. Дзеці вельмі любяць „дарослыя” песні, але лепш, каб у прадшколлі спявалі песні пра зразумелыя для дзяцей справы. За добрую падборку песень можна пахваліць прадстаўнікоў украінскай меншасці з Прадшколля № 9 у Бельску-Падляшскім, якія спявалі пра курачку і сонейка. Беларускую меншасць прадстаўлялі прадшколлі з Беластока і Гайнаўкі. Запамятаўся Якуб Прыступюк з Гайнаўкі, які выйшаў на сцэну з „Беларусачкай” і чараваў публіку сваёй сімпатычнасцю. Інакш выглядала выступленне Марты Васькоўскай з Беластока. Дзяўчынка разам з прыгожым голасам праявіла музычную адукацыю. У гэтым каларыце вылучаліся таксама дзеці з садка № 27, якія „па ролях” заспявалі „Касіў Ясь канюшыну”, і гэта атрымалася тэатральна і жартоўна. А гурт „Вясёлка” заспяваў песню пра „Бульбу”. Усе дзеці і настаўнікі атрымалі ганаровыя граматы і ўзнагароды ды ўсіх чакаў салодкі стол. Шкада, што ў час прэзентацыі выступоўцы не называюць аўтараў песень, кампазітара і асобу, якая падрыхтавала да выступлення. Пра культуру нельга гаварыць ананімна, бо тады яна расплываецца ў масе і замірае. Варта таксама на запрашэнні напісаць прынамсі адзін сказ на мове ўдзельнікаў фестывалю. Падводзячы сказанае, хочам адзначыць асноўнае: нам падабаўся энтузіязм настаўнікаў і бацькоў, якія падрыхтавалі дзяцей да выступленняў. Але пра гэта напішам у наступных нумарах „Зоркі”. Фестываль ад пачатку ладзяць настаўніцы Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку.

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**




*Дзеці з літоўскага садка ў Пуньску*




*Украінскі гурт з садка н-р 9 у Бельску-Падляшскім*




*Насця Шэрэмэта з беларускага садка ў Беластоку*



## Конкурс пра вясну (21)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з першымі ядам вясны. Адказы, найлепш па электроннай пошце, дашліце да 26 мая. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1. Які паўзун, запісаны ў Чырвоную кнігу прыроды, жыве на дрэве?**

*а) рапуха,*
*б) жаба-квачка,*
*в) трытон.*

**2. Якая легендарная расліна зацвітае ў Купальскую ноч?**

*а) лілея,*
*б) васілёк,*
*в) папараць-кветка.*

**3. Дзе на Падляшшы знаходзіцца старажытны насып, вядомы як урочышча Гай?**

*а) у Гацьках,*
*б) ва ўрочышчы Кудак,*
*в) у Суражы.*

**Рашэнне конкурсу № 17 (13):** 1 — Жыве Беларусь (б); 2 — Салідарныя з Беларуссю (а); 3 — Канапелька (а).

Узнагароду, фільм Андрэя Лобача „Дом”, выйграў **Марцін Аврчук** з Арэшкава.

**ЗОРКА**

## Вершы Віктара Шведа

### Дзе знайшоў балота?

Маці лае: — Дзе ты лазіў,
Калі цэлы ў страшнай гразі?
Калі бачу твае боты
Ліхім спэцканы балотам...

На дварэ такая спёка,
Усё высахла навокал.
Дзе ж знайшоў балота, жулік?
— Трэба ўмець шукаць, матуля!

### Кім твой тата?

Запыталіся Ігната:
— Чым займаецца твой тата?
Адказаў Ігнат на гэта:
— Ён збірае нам манеты.

— Хіба ён, — сказала Вера, —
Будзе калекцыянерам?
Ігнат сцвердзіў сумнавата:
— Жабраком, на жаль, мой тата.

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЕНЬКА

Дзеці чарговы раз сустрэліся на конкурсе ў сядзібе БГКТ па вуліцы Варшаўскай. Гэтым разам прыехалі тыя, якія хацелі паганарыцца сваім голасам. Конкурс пад загалоўкам «Беларуская песня» прывабіў музыкальных вучняў з пачатковых школ, а таксама прадшкольняў з Беластока, Міхалова і Крынак.

Малыя выканаўцы выступілі з разнавідным рэпертуарам. Яны спявалі дзіцячыя песенькі, вясёлыя і цёплыя, але не толькі. Многія выбралі песні радзімых падляшскіх калектываў. Прагучалі і вельмі сур'ёзныя па змесце творы, напрыклад, «Малітва» на словы Янкі Купалы. Тут асмелілася з ёю выступіць Оля Раманюк:

— Мне падабаецца гэтая песня, часта яе слухаю. Адначасова доўга мне трэба было рыхтавацца да выступу таму, што цяжка яе заспяваць, — Оля прызналася, што мае вопыт у сцэнічных выступах таму і на «Беларускай песні» ўпэўнена сябе адчувала. — Я выступаю ў мюзікле «Корчак», таму ведаю як пазбавіцца нерваў і добра паказацца.



*Гурт „Вясёлка" з садка н-р 14 ў Беластоку перад уваходам на сцэну*

Некаторыя дзеці мелі яшчэ больш сур'ёзную задачу. Яны менавіта не толькі спявалі, але таксама ігралі на музычных інструментах. Акардэоны, гітары, цымбалы сапраўды паважна выглядалі ў руках дашкольнікаў. Якуб Шэрэмэт выбраў музычны трыкутнік. Прызнаўся, што навука ігры на гэтым інструменце нескладаная:

— Я нядоўга вучыўся, а ўжо ўмею і зусім не хвалююся перад выступам.

Варта згадаць, што выступалі не толькі паасобныя выканаўцы песень, але і гурцікі, складзеныя з некалькіх асоб, а нават большыя групы.

Для ўсіх дарослых, прыбылых на конкурс «Беларуская песня», напэўна было прыемна паслухаць любімыя творы ў выкананні маладых галасоў. Сведчылі аб гэтым ступні, якія гойдаліся пад крэсламі ў рытм музыкі, раскалыханыя галовы з усмешкамі і гучныя апладысменты.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Музыка з кайфам

## Анклунг — для дзяцей і дарослых



Фота Ілоны КАРПЮК

Прыязджаю ў Крушыняны, частку насельніцтва якіх складаюць татары. Найлепш прыехаць сюды галодным і са смакам паспрабаваць прысмакаў татарскай кухні ў «Татарскай юрце». Там, у мінулую суботу, урачыста адзначылі свята Сабантуй. На мерапрыемстве сярод татараў, беларусаў, жыдоў, расіян, палякаў можна было сустрэць гасцей з Інданезіі. Запыталася я ў Джанэты Багдановіч, гаспадыні месца і суарганізаторкі свята, адкуль такая ідэя, бо над ёй задумваліся шматлікія.

— Добра супрацоўнічаем з пасольствам Інданезіі ў Польшчы, — сказала Джанэта. — Хацелі мы, каб удзельнікі свята паспрабавалі кухні іншых мусульман, не толькі татараў, і Інданезія тут нам класна супала з задумай.

А мне больш чым кухня зацікавіў сцэнічны выступ інданезійцаў. Калі з дыпламатычных плацоўкаў паплылі першыя гукі, я адразу пабегла пад сцэну. Аказалася, што калектыў іграў на традыцыйных бамбукавых інструментах, якія завуць анклунгамі. Кожная дзяўчына, якая трымала свой інструмент, іграла адзін тон і мелодыю стварылі ўсе разам пры выкарыстанні адначасова некалькіх інструментаў. Незвычайная прыемнасць, а ў выпадку артыстаў — адказнасць, каардынацыя і засяроджанасць. Вынік — цудоўны. Уявіце сабе, што два гады таму ў Вашынгтоне, на анклунгах зайграла разам 5182 чалавекі! Тым самым гэтае выкананне трапіла ў Кнігу Гінеса. Пакуль прыйшоў рэкорд, у 2010 годзе інструмент увайшоў у спісак сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Сачыла я за рознымі цікавінкамі звязанымі з анклунгам і аказалася таксама, што пры ўдзеле інданезійскага бамбукавага інструмента адкрылі ў Польшчы год выдатнага кампазітара Вітальда Лютаслаўскага. У студзені прайшоў канцэрт яго твораў, напісаных для дзяцей. Сярод іх апынулася аранжыроўка вядомай песні «Idzie Grześ przez wieś» на анклунгавы калектыў! Цікавыя гісторыі, як цікавы і сам інструмент. Заахвочваю паслухаць як ён гучыць або ездзіць на розныя міжкультурныя мерапрыемствы, бо ніколі невядома, што вас там цікавага сустрэне.

**i_basovka@o2.pl**

Паўліна БАНАСЮК

# Надзея

*Надзея ў нашых сэрцах*
*Надзея ў нашай душы*
*Бачу яе навокал сябе*
*Сэрца лядовае растае*

*Надзея — прыгожае слова*
*Думкі нашы варушыць*
*Надзею бачым усюды*
*Нават у глыбі душаў*

http://www.rotfl.com.pl



# Польска-беларуская крыжаванка № 21

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 17:**

Куст, цыкл, тын, смак, но, святло, лета, на, хутар, так, рог, абаранак. Кіт, слуга, свет, мята, татар, цыкл, Ян, тон, нага, аловак.

Узнагароды, дэкаратыўныя наклейкі-стыкеры, выйгралі **Аня Панькоўская**, **Магда Пташынская**, **Лукаш Марчук** з Нараўкі, **Марыюш Красько**, **Сузана Мішчук**, **Вольга Мішчук** з Арэшкава, **Вераніка Кардзюкевіч**, **Аляксандра Лашэўская**, **Габрыела Торка**, **Якуб Голец** з НПШ свсв. КіМ у Беластоку. Віншуем!



# У гонар Сакрата ЯНОВІЧА

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Вучні Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, якія займаюцца ў тэатральным кружку ў Музеі і асяродку беларускай культуры пад наглядам акцёра і рэжысёра Іаанны Стэльмашук-Троц, выступілі ў кіназале музея са спектаклем на аснове драмы светлай памяці Сакрата Яновіча «Не пашанцавала». Нягледзячы на тое, што падрыхтоўка да выступу распачалася раней, чым памёр наш славуты беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч, спектакль быў свайго роду данінай у гонар Сакрата Яновіча.



— Мы вялікім намаганнем будавалі музей і я вельмі задаволены, што тут разгортваецца яшчэ і тэатральная дзейнасць. Калі глядзім на маладых, якія выступаюць па-беларуску, гэта падтрымлівае на духу і дае надзею, што беларускасць будзе тут захоўвацца, — заявіў пасля спектакля былы настаўнік Гайнаўскага белліцэя і будаўнік музея Аляксей Харкевіч.

— Мне пастаноўка п'есы вельмі спадабалася. Важна, што напісаў яе Сакрат Яновіч. Я асабліва цешуся, што маладыя людзі хочуць гуляць у тэатр і выступаць па-беларуску, — сказала Марыя Балтрамюк, таксама былая настаўніца. — Камедыя тычыцца суадносін паміж вёскай і горадам. Змест п'есы важны і актуальны таксама цяпер. Яновіч пісаў творы з глыбейшымі думкамі. Сёння цікава было паглядзець інтэрпрэтацыю твора «Не пашанцавала».

Хаця сабраныя ў кіназале, а было іх многа, звярталі перш за ўсё ўвагу на ігру маладых акцёраў з белгімназіі і белліцэя, то ў думках успомнілі таксама Сакрата Яновіча, які, між іншым, сатырай і крытыкай падказваў нашаму грамадству як выпраўляць свае жыццёвыя сцежкі. У камедыі ў трох карцінах «Не пашанцавала», выдадзенай у 1978 годзе ў Беластоку, Сакрат Яновіч пакрытыкаваў гонку маладых людзей за грашамі, прызнаннем і іх прагу перасяляцца з вёсак у гарады. Крытыка Сакрата Яновіча тычылася сучаснай яму рэчаіснасці ў Народнай Польшчы, калі, напрыклад, маладыя дзяўчаты стараліся масава перасяліцца ў гарады, нават нягледзячы на характар працы, якую там будуць выконваць. З хлопцамі было ўжо па-рознаму і, пражываючы толькі з бацькамі, частка з іх пачынала заглядаць у кілішак. Гайнаўскія вучні ўдала перадалі сабраным ідэю сатырычнага твора, хаця памянялі яго канчатак і загаловак сваёй пастаноўкі на «(Не) пашанцавала».

— Развітваючыся з Сакратам Яновічам, было многа сказана пра яго як пра публічную асобу і пра значэнне яго творчасці. Мы хацелі паказаць яго праз прызму творчасці як чалавека, які блізкі таксама моладзі. Бачыў ён праблемы маладых, звяртаў на іх увагу і выяўляў свае рэфлексіі наконт іх, — гаварыла Іаанна Стэльмашук-Троц. — Мы стараліся паказаць цяжкія справы ў лёгкі спосаб, з гумарам і смехам, быццам бы смяяліся разам з Сакратам Яновічам.

Маладыя акцёры плануюць яшчэ выступіць у белліцэі і перад моладдзю іншых школ, каб пазнаёміць іх з сатырай Сакрата Яновіча. У белмузеі выступілі вучні, з якімі Іаанна Стэльмашук-Троц займаецца адносна коратка, але паказалі яны, што нават за кароткі час можна навучыцца падставам акцёрскай ігры і цікава запрэзентавацца перад публікай.



— Я сёння захоплена выступам моладзі і пад уражаннем таго, што яны паказалі. Працуючы ў конкурсных камісіях, я назірала за вучнямі і запрапанавала больш здольным займацца ў тэатральным кружку ў музеі. Да іх далучыліся яшчэ іншыя асобы. Знайшла я п'есу Сакрата Яновіча «Не пашанцавала», якая мне спадабалася таксама таму, што яе нескладана ставіць на сцэне. Падыходзіць яна і аматарам гульні ў тэатр, якія толькі пачынаюць вучыцца акцёрскай ігры, — сказала Іаанна Стэльмашук-Троц.

Белгімназісты і белліцэісты Магдалена Гаўрылюк, Ада Прусіноўская, Міхаліна Герасімюк, Матэвуш Чурак, Пётр Апольскі, што выступілі з беларускім словам і Грыгорый Дружба, што састаўляў акампанемент на акардэоне, хацелі справіцца з пастаўленай задачай як найлепш і гэта ім удалося. Моладасць і прага запрэзентавацца як мага найлепш перад публікай выклікалі хваляванне ў вучняў. Аднак іх здольнасці і шматлікія рэпетыцыі, праведзеныя з Іааннай Стэльмашук-Троц, якая адаптавала драму для спектакля і саставіла мастацкі дагляд, дазволілі пакарыць адмоўныя эмоцыі, запрэзентавацца са спакоем і зацікавіць сабраных. Некаторыя вучні скарысталі вопыт, набыты падчас дэкламацыі і выступаў з музычным рэпертуарам на шматлікіх фестывалях. Сярод гледачоў былі школьныя сябры вучняў і старэйшая публіка, якая прыбыла ў музей, каб паглядзець пастаноўку драмы нядаўна памерлага пісьменніка. Моўныя памылкі дапамаглі выправіць кансультацыі з настаўнікам беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Янам Карчэўскім, а мерапрыемства магло адбыцца, дзякуючы фінансавай дапамозе Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, у рамках святкавання 30-годдзя будовы і дзейнасці Беларускага музея ў Гайнаўцы.

— Прызнанне, грошы, кар'ера, а пры гэтым карупцыя. Тое, што мы паказалі, актуальнае таксама і сёння. Цікавы сюжэт спектакля. Нам вельмі добра было займацца ў час рэпетыцый з Іааннай Стэльмашук. Мы многа смяяліся і была добрая атмасфера, — гаварылі наперамен гайнаўская белгімназістка Магдалена Гаўрылюк і белліцэістка Ада Прусіноўская і Міхаліна Герасімюк. — Ролі нашыя былі зразумелымі і калі нават мы нешта забывалі, то дабаўлялі ад сябе, як было і ў час прэм'ернага выступлення. Канчатак п'есы мы ў тэатральнай пастаноўцы памянялі, бо хацелі, каб усё для нашых герояў добра закончылася. Мы хочам, каб нам таксама ўдала працягвалася гульня ў тэатр і каб пані Ася далей займалася з намі. Сёння ад нашага выступу засталіся цікавыя досведы. Мы будзем рады, калі пакажам наш спектакль таксама ў іншых месцах.

— Вельмі спадабалася мне гульня ў тэатр. Міла праводзіў я час на рэпетыцыях. У тэатральны калектыў я трапіў праз Міхаліну, якая сказала, што я падыходжу да ролі ў п'есе. Падрыхтоўка да выступу не была складанай. Ролю мог я вывучыць нават у час рэпетыцый, — сказаў белліцэіст Пётр Апольскі.

Акардэаніст Грыгорый Дружба дадаў, што музыка да п'есы была падабрана ў асноўным з музычнага рэпертуару, які ён умеў выконваць ужо раней і таму не было складана падрыхтавацца да спектакля. Публіка «Мастацкіх сустрэч школьнікаў» ведае Грыгорыя з выступаў у белмузеі, калі паказваў свае ўмеласці ігры на акардэоне.

— Моладзь любіць выступаць у пастаноўках з гумарам і таму цікава было ім іграць паводле п'есы Сакрата Яновіча «Не пашанцавала». У вучняў ёсць прага гуляць у тэатр і я думаю, што мы падрыхтуем да выступаў таксама іншыя пастаноўкі, — сказала апякун гайнаўскай моладзі Іаанна Стэльмашук-Троц, якая, апрача актыўнасці ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах, удала супрацоўнічае з Гайнаўскім белмузеем. Вучні, якія пад яе наглядам здабывалі акцёрскія ўмеласці і вучыліся любіць роднае, запрэзентаваліся ўжо ў мінулым годзе ў белмузеі і ў школах у Арэшкаве і Чыжах з пастаноўкай для дзетак «Балада аб спячай каралеве Марылі». Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк захапіўся выступамі вучняў і пацвердзіў, што плануе разгортваць дзейнасць тэатральнага кружка ў белмузеі.

# Надзейнае Партнёрства:



Злева: Алесь Анціпенка, Леван Хетагуры, Ірына Магдыш і Кшыштаф Чыжэўскі

# культура!

**Усходняе партнёрства як культурны праект абмяркоўвалася на працягу трох дзён (10-12 мая) у Міжнародным цэнтры дыялогу ў Краснагрудзе на Сейненшчыне. У мясцовы былы дварок Чэслава Мілаша прыбылі прадстаўнікі самаўрадаў пяці польскіх усходніх ваяводстваў, а таксама прадстаўнікі няўрадавых арганізацый і культурных установаў, якія супрацоўнічаюць з краінамі-ўдзельніцамі Усходняга партнёрства. Дэбату і семінары сумесна арганізавалі Усходні дом у Бруселі і сейненскі Фонд «Пагранічча мастацтваў, культур і народаў».**

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

Удзельнікамі асноўнай часткі сустрэчы былі, між іншым, Леван Хетагуры з грузінскага фонду «Каўказ», Ірына Магдыш — праграмны дырэктар Музея ідэй у Львове, беларускі філосаф Алесь Анціпенка з «Беларускай калегіі» і Кшыштаф Чыжэўскі ад «Памежжа», які ініцыяваў дыскусію, маючы на ўвазе ролю, якую павінна іграць ва УП культура:

— Новай суседскай, рэгіянальнай, еўрапейскай інтэграцыі мы не зробім без духоўнага вымярэння. Нанова неабходна стварыць культурны пласт, які будзе дыскрымінантам пагранічча, злучным рэчывам. У ЕС культурны пласт застаецца ўбаку. Мы пакуль у ім не ў змозе пабудаваць мультыкультурнае злучво.

Ірына Магдыш не скрывала:

— УП і культура — гэтыя паняцці мінаюцца. Тут няма дыялогу. Хтосьці выдумаў гэтую праграму (УП — М. Х.) у Бруселі, не ведаючы, што адбываецца ў гэтых краінах. Краіны-ўдзельніцы УП (Беларусь, Арменія, Азербайджан, Грузія, Малдова і Украіна — М. Х.) настолькі розныя, што яны не могуць быць укінуты ў адзін мех, нельга падыходзіць да іх з адной меркай. Мы маем у нашых шасці краінах розныя ўрады, розныя напрамкі развіцця, а ў выпадку Украіны — ніякага. Без разумення асаблівасцей кожнай краіны УП не ўдасца нічога зрабіць. Аднак, ёсць шмат агульнага паміж намі, якраз у сферы культуры. Наша агульная праблема заключаецца ў цэнтралізацыі, найбуйнейшыя культурныя мерапрыемствы адбываюцца ў сталіцах. На ўскраіне, пагранічнах нічога не адбываецца. Гэта мёртвая зона. Агульныя, новыя культурныя праекты трэба праводзіць у малых мясцовасцях.

Яна паказала на тое, што грамадзяне шасці краін былога Савецкага Саюза, ахопленыя еўрасаюзнай праграмай Усходняга партнёрства, мала ведаюць пра сябе.

— На жаль, змены ў нашых краінах не пачаліся з культуры, і, такім чынам, са змены мыслення адзінак.

Іншай важнай праблемай у галіне культуры, з якою сутыкаюцца ўдзельнікі Усходняга партнёрства — на яе думку — гэта палітызацыя культуры. Дадала:

— За гэтыя гады аддзялення ад свету страцілі мы некалькі пакаленняў, якія могуць быць кампетэнтнымі ў рэалізацыі культурных праектаў. Таму абмен вопытам сапраўды неабходны.

Падкрэсліла, спасылаючыся на еўрасаюзнае супрацоўніцтва:

— Мы чакаем даверу на міжасобасным і міждзяржаўным узроўнях. «Яны» ў канчатковым выніку навучацца. Давер гэта ж дыялог. Неабходныя доўгатэрміновыя праекты, а не аднаразовыя: канцэрцік, воплескі, піўцо. Не хочам уставаць раніцай усё з тымі ж праблемамі. Павінны мы таксама працаваць разам, каб пабудаваць гэтак званы чалавечы капітал. Патрабуем таксама роўнасці, што звязана з даверам. Як партнёры, часта адчуваем сябе прыніжанымі ў ЕС.

Кшыштаф Чыжэўскі, спасылаючыся на яе патрабаванні, між іншым заявіў:

— Зараз у нас ёсць момант цэнтралізацыі культуры (ідэя заключаецца ў тым, што самыя вялікія грошы плывуць на рэалізацыю праектаў у сталіцах УП — М. Х.). Абсалютна важнай задачай з'яўляецца пераацэнка правінцыі. Залежыць нам на незалежнасці, але з другога боку хочам удзельнічаць. З дзеяннямі мы хочам быць у цывілізацыйна-сацыяльна-прагрэсіўных кантэкстах. У Польшчы, Беларусі і Украіне мы адчуваем ментальную сувязь. Існуе некаторая хімія з Грузіяй, але ўжо не з Азербайджанам, Арменіяй і Малдовай. Гэтыя адносіны не былі наладжаны ані ў савецкі перыяд, ані пазней.

Леван Хетагуры, былы член еўрасаюзнай групы па справах культуры, пералічваў:

— Большасць еўрасаюзных грошай для УП траціцца на самалёты, харчаванне і знаходжанне ў дарагіх гатэлях экспертаў па праектах, якія ажыццяўляюць някаснае абучанне (...). Мы павінны падумаць як стварыць дыскусію аб культуры з Еўрапейскай камісіяй (...). Палажэнне культуры ў краінах-удзельніцах рознае. Напрыклад, у Азербайджане культура належыць да сям'і. Нам патрэбны праграмы альтэрнатыўныя да еўрасаюзных. Патрэбны новы фонд, без бюракратычнай сістэмы, якую мае Брусель. Грошы павінны быць выдаткаваныя на культурныя мерапрыемствы.

Падкрэсліў:

— Ува ўсіх шасці краінах Усходняга партнёрства няма ніякіх прыярытэтаў для фінансавання сучаснага мастацтва. Калі мы сёння не будзем яго падтрымліваць, а толькі гэтак званую спадчыну, заўтра ў нас не будзе ніякай спадчыны (...). У перадвыбарных праграмах апазіцыйных палітычных партый нашых краін не ўспамінаецца пра культуру. Гэты сектар нецікавы для палітыкаў.

Кшыштаф Чыжэўскі заўважыў:

— Страх перад новым, перад эксперыментам, адсутнасць падтрымкі сучаснага мастацтва вынікае з недахопу даверу.

Алесь Анціпенка сказаў:

— Улічваючы культуру і мастацтва толькі як забаву, спыняем працу над зменай менталітэту. Мы павінны прыняць да ўвагі гістарычны фон кожнай з краін-удзельніц УП. Часта таксама дрэнная візуалізацыя будучыні.

Раней у сваім выступе даказваў ён, чаму патрэбна моцнае Усходняе партнёрства ў культурным вымярэнні.

— Культурная эліта ў нашай краіне аказалася настолькі слабая, што яна не змагла ператварыць савецкі менталітэт у новы, заснаваны на дэмакратычных каштоўнасцях. У адрозненне ад сітуацыі ў Польшчы, беларуская незалежная культура не была ў стане даць магутны імпульс для сацыяльна-псіхічнай змены, якая зрэвалюцыянізавала б савецкую рэчаіснасць і савецкую сістэму каштоўнасцей (...). Варта таксама адзначыць, што кансерватыўны патэнцыял ментальных структур, навязаных савецкай сістэмай, быў цалкам недаацэнены новай палітычнай і культурнай элітай, не толькі ў Беларусі, але і ў Грузіі і Украіне.

Спрабаваў таксама вызначыць ключавыя паняцці:

— Культура з'яўляецца вобласцю каштоўнасцей. Мастацтва, з другога боку, з'яўляецца вобласцю суб'ектыўнасці. У практычным плане гэта абазначае, што культура сутыкае людзей з агульначалавечымі каштоўнасцямі. Яе найважнейшай задачай з'яўляецца стварэнне сістэмы каштоўнасцей, якія не толькі звязваюцца з чалавечым жыццём і чалавечымі актыўнасцямі, якія даюць ім сэнс. А мастацтва паказвае чалавеку яго суб'ектыўнасць і нематэрыяльнасць. Свабода самавыяўлення з'яўляецца асноўнай матывацыяй для любой творчасці ў мастацтве і культуры. Таталітарныя ідэалогіі, наадварот, адмаўляюць у праве на агульначалавечыя каштоўнасці і імкнуцца ажыццяўляць кантроль над культурай. Гэта цалкам лагічны крок, таму што культура, разуметая як універсальная каштоўнасць, з'яўляецца натуральным ворагам любой ідэалогіі, якая заснавана на ідэі падзелу і адчужэння.

Працягваў:

— Мы ў Беларусі ўсё яшчэ змагаемся з распыленнем і сацыяльным адчужэннем, якія складаюць аснову любога таталітарнага або аўтарытарнага рэжыму пабудаванага на пачуцці чалавечай слабасці і бездапаможнасці. Як паказваюць апошнія сацыялагічныя даследаванні, 70% беларускіх грамадзян не давяраюць адзін аднаму. Гэты ілюстрацыйны разлік паказвае вельмі нізкі ўзровень супольнасці культурных каштоўнасцей. Мэтай аўтарытарнага рэжыму з'яўляецца залежнасць і запалохванне людзей. Рэальным эфектам кантролю, накладзенага на культуру і мастацтва, з'яўляецца заблакаванне творчай энергіі і крытычнага мыслення. У выніку людзі ідэалагічна зманіпуляваныя. Прыгнечаныя і запалоханыя, часта адчуваюць траўмы. У гэтым кантэксце роляй незалежнага мастацтва і культуры з'яўляецца распрацоўка механізмаў для трансфармацыі постсавецкай ментальнасці. Гэта таксама асноўная прычына, чаму незалежную культуру неабходна падтрымліваць і развіваць. З улікам вышэйпрыведзеных рэалій роля культуры ў грамадстве, такім як беларускае, можа быць вызначана самым прамым шляхам. Па-першае, яе роля заключаецца ў стварэнні новай іерархіі каштоўнасцей, у якой агульначалавечыя каштоўнасці з'яўляюцца найбольш важнымі. Па-другое, інспіраванне і актывізацыя людзей (дадаванне ім сілы, матывацыі). Па-трэцяе, аб'ядноўванне людзей і даванне ім магчымасцей для іх сумесных дзеянняў. Па-чацвёртае, перапрацоўванне калектыўных, нацыянальных і гістарычных траўм. І, нарэшце, надаванне новага значэння і сэнсу нашаму жыццю і існаванню. Унясенне змяненняў у менталітэт людзей часта прапануюць розныя ідэалогіі, але ў адрозненне ад іх, мастацтва і культура адносяцца перш за ўсё да свабоднага выказвання сябе, не звяртаюцца да гвалту, кіруюцца агульначалавечымі каштоўнасцямі. У адрозненне ад ідэалогіі, асновай незалежнай культуры з'яўляецца павага свабоды асобы. Яна заклікае да творчасці. Я хачу падкрэсліць таксама той факт, што ўніверсальныя каштоўнасці, якія нясуць мастацтва і культура, з'яўляюцца моваю зразумелай усімі. Дзякуючы гэтым уласцівасцям, мастацтва і культура з'яўляюцца магутным інструментам для пракладкі мастоў паміж людзьмі розных культурных і палітычных колаў.

У некаторых постсавецкіх краінах афіцыйная культура разглядаецца як інструмент палітычнай ідэалагічнай апрацоўкі. Гэта праўда, што гэты тэрмін часта выкарыстоўваецца для прасоўвання адносін лаяльнасці або рытуальных дзеянняў. Можа, аднак, працэс стварэння партнёрскага суседства павінен таксама мець афіцыйнае вымярэнне. У выпадку Беларусі, асноўнай праблемай у наладжанні культурнага супрацоўніцтва з'яўляецца тое, што службовыя асобы, якія працуюць у галіне культуры, не з'яўляюцца незалежнымі ў прыняцці рашэнняў.

Адзначыў:

працяг ☞11



# Малітва званоў

Пяты раз у супрасльскі, веснавы небасхіл узняліся конкурсныя, пасхальныя вяшчанні званоў. Хаця паводле старога звычаю ў велікодны перыяд кожны можа званіць на славу Божую, у Супраслі гэтай справай заняліся самыя лепшыя, у асноўным расейскія, украінскія і беларускія спецыялісты. Прыехалі яны сюды як удзельнікі Міжнароднага фестывалю царкоўнага званарства «Абвяшчае, праслаўляе, заклікае». У гэтым годзе ўдзел у конкурсе заявіла больш за трыццаць выканаўцаў, з якіх 23 было кваліфікаваных у адборачнае спаборніцтва. У іх ліку апынуліся дэбютанты і пераможцы іншых званарскіх аглядаў. Канкурсанты забралі шматлікую публіку ў сапраўднае культурнае падарожжа па цэрквах і скітах між іншым, Гайнаўкі, Віцебска, Кіева ці Масквы. Архаічныя, сціплыя водгукі манастыроў на роўні з віртуознасцю вялікіх храмаў Расеі ўводзілі слухачоў у радасны пасхальны настрой.

Кароткі тэхнічны аналіз званарскага майстэрства чытачам «Нівы» даў член конкурснай камісіі, знаўца візантыйскай музыкі Марцін Абійскі.



— Розніцы ў стылі і званарскай тэхніцы выступаюць не толькі паміж краінамі, але і суседнімі прыходамі, — паясняе ён. — Нязменнай застаецца рытміка. Удар павінен быць роўным і стабільным. Любыя яго змены мусяць вызначацца паслядоўнасцю. Рытмічна-меладычныя фігуры бываюць аднастайнымі і разнароднымі. Тут важная якасць, глыбіня гуку, рытмічныя вартасці і вядзенне музычнай фразы. Кожная прэзентацыя мае сваю канцэпцыю, асноўнымі часткамі якой з'яўляюцца ўступ, працяг і заканчэнне.

Пакуль у нашым рэгіёне і краіне не працуюць ніякія школы ці курсы па гэтым відзе майстэрства. Можа гэта з'яўляецца адной з прычын прысутнасці сёлета толькі аднаго кандыдата з польскага боку.

Павел Паўлючук са Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы ў Супраслі выступіў ужо другі раз. Царкоўным званарствам займаецца з 2007 года.

— Ідучы на службу, я чуў біццё званоў, — кажа малады канкурсант. — Яны заўсёды напаўнялі мяне невыказанай радасцю. Вельмі мне захацелася самому паспрабаваць. Такім чынам я аказаўся на нашай званіцы. На кожную багаслужбу я прыходзіў заранёў, каб падгледзець званарскі варштат семінарыста Марціна Ахрымюка. Далей трэніраваўся сам.

Працавітасць і званарскае захапленне Паўла былі заўважаны конкурснай камісіяй, якая прызначыла яму ганаровае трэцяе месца. Трэцяе месца атрымаў таксама Мікалай Самарын з Яраслава. Другую ўзнагароду журы ўручыла Юліі Лотавай з Масквы. Першае месца заняў таксама масквіч Васілій Вакатаў.

Сваіх прадстаўнікоў на фестывалі меў таксама Калінінград. Сяргей Верацёнаў, Антон Цімчанка і Сяргей Алмазаў з тамтэйшага сабора Хрыста Збавіцеля з ахвотай падзяліліся сваім разуменнем царкоўнага званарства .

— Звон, — пачынае Сяргей Верацёнаў, — гэта важная частка царкоўнай традыцыі, якая, між іншым, прадвяшчае пачатак богаслужэнняў і памячае асноўныя ў іх моманты. Ёсць спецыяльныя правілы царкоўнага званарства, але так выходзіць, што ў кожнага, хто гэтым займаецца, ствараецца свой непаўторны звон.

— Званарства для нас гэта перш за ўсё паслушанне, — дабаўляе Антон Цімчанка. — Яно звязана нейкім чынам і з мастацтвам. Чалавек, апрача хлеба, патрабуе блізкасці з Богам. Тое, чым мы займаемся на Божую славу, з верай узбагачае наша жыццё, збаўляе ад суму і згубы.

— У званарстве заключаецца і місіянерскі сэнс, — мяркуе Сяргей Алмазаў. — Калі ты стаіш на высокай званіцы, бывае, увойдзеш у нейкі рытм, глядзіш, а там унізе людзі затрымліваюцца, перахрысцяцца, слухаюць. Мабыць, у такіх хвілінах яны кантактуюцца з Богам, адлаліўшыся ад турбот і клопатаў зямнога жыцця.

Адным з атракцыёнаў сёлетняга фестывалю была мультымедыйная трансляцыя конкурсных змаганняў на вялікім святладыёдным экране.

Арганізатарамі мерапрыемства былі Падляшскі музей, Супрасльская акадэмія і Фонд «Оікономос».

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**




За цяперашнім часам цяжка знайсці ў сярэдзіне Еўропы горад ці мястэчка, якія б не мелі ўласнага сайта ў інтэрнэце. Некаторыя, больш буйныя, маюць іх па два, тры і нават болей. Цяпер і мясцовыя ўлады падыходзяць вельмі дбайна да насычэння інфармацыяй такіх сайтаў, таму часцяком яны вельмі інфарматыўныя — там можна знайсці расклад руху транспарту ці карты з пазначэннямі цікавых мясцін. Але на такіх сайтах не заўсёды знойдзеш тую рэчаіснасць, якая крыху бліжэй да паўсядзённага жыцця і можа перадаць увесь каларыт, характэрны для данай мясцовасці. Гэтую ролю больш удала выконваюць сайты, якія робяцца простымі людзьмі, што зважаюць на разнастайныя дробязі. Адным з прыкладаў такога сайта з'яўляецца „Невядомая Лунінеччына", якія распавядае пра палескі горад Лунінец і яго ваколіцы. Сайт месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://luninets.tk.**

Адразу кідаецца ў вочы, што сайт зроблены з вялікім адыходам ад звычайнага дзялення галоўнай старонкі. Тут няма трох яе частак — пад назвай і выйсцямі да рубрык ідуць у незразумелым парадку анонсы разнастайных артыкулаў. Яны ніяк не звязаныя тэматычна паміж сабой, акрамя таго, што распавядаюць пра падзеі ў Лунінцы. Таму, каб скласці больш-менш канкрэтнае ўражанне пра сайт, варта прагледзець амаль усе яго старонкі.

Неабходна адзначыць, што расповед на сайце вядзецца ад імя некалькіх невядомых асоб. Знайсці іх самапрэзентацыю нідзе не ўдалося. Праўда, калі зважаць, што сайт перш за ўсё пра Лунінец, то гэты недахоп, не такі ўжо і вялікі.

Ну а пра гэты населены пункт змешчаны тры выдатныя артыкулы ў рубрыцы „Горад". Менавіта адсюль можна са здзіўленнем даведацца, што „Лунінец, як горад, пачаў развівацца з узнікненнем чыгункі напрыканцы XX стагоддзя". Аўтарку, бо расповед ідзе ад імя жанчыны, чамусьці не засмуціла, што яна памылілася на меншай меры на стагоддзе, і далей яна піша больш праўдападобна: „Таму каля вакзала знаходзіцца помнік цягніку. Ідэя будаўніцтва Палескіх дарог належыць імператару Аляксандру III. Менавіта ён звярнуў увагу на недахоп транспартных сувязяў з Заходняй Еўропай. Палессе ў тыя гады практычна цалкам было пакрыта непраходнымі балотамі. Вакол помніка пазначаны шыльды з датамі заканчэння будаўніцтва чыгуначных шляхоў з Пінскам, Гомелем, Вільнюсам і Роўна". Пра ўсё гэта напісана ў артыкуле „Сцежкі Лунінеччыны".

Цікавым падаецца і размешчаны там тэкст „Мой новы сябар Лунінец", дзе распавядаецца пра тое, як яго аўтар Кастусь закахаўся ў гэты горад. „Можна прыехаць у Парыж, не ўмерці, але закахаца ў яго, а потым прыехаць сюды і зразумець, што адпачывае ён, той „горад Эйфелевай вежы". Лунінец, вось што кранае за сэрца, вось, што ўлюбляе ў сябе. З'ездзіце, не пашкадуеце!" — заклікае ён.

Для азнаямлення з лунінецкай рэчаіснасцю вартыя ўвагі рубрыкі „Падзеі", „Спорт", „Вясковыя прыгоды", а таксама фотагалерэя „Вясна на Палессі".

На жаль, нідзе на сайце не ўдалося знайсці адказу на пытанне, чаму большасць люду ў Беларусі кажуць „Лунінец" з націскам на апошні склад, а мясцовыя жыхары — на першы.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара



### Сын камбатанцкага палка

# 50 гадоў з дня нараджэння Зміцера Кісяля

24 траўня мы маглі б адсвяткаваць юбілейны дзень нараджэння нашага сябра і аднадумца Зміцера Кісяля, аднак адно, што мы можам зрабіць — гэта пайсці на гродзенскія могілкі, што на праспекце Касманаўтаў, каб запаліць на месцы ягонага пахавання зніч ды ўскласці кветкі. Зміцер Кісель раптоўна памёр 30 верасня 2005 г. і цяжка паверыць, што з таго трагічнага дня прайшло ўжо амаль 8 гадоў.

Нарадзіўся ён у Гродне ў сям'і беларускіх патрыётаў, якія сур'ёзна пацярпелі ў час сталінскага генацыду. Яго бацькі былі вязнямі савецкіх канцлагераў. Дзіма з дзяцінства атрымаў адпаведнае беларускае выхаванне. У дзяцей вядомых беларускіх дзеячаў з ідэалагічнай спадкаемнасцю не так проста. Многія з іх настолькі далёкія да беларускіх спраў, што нават не толькі бацькам сорамна. Зміцер у гэтым сэнсе цалкам спраўдзіў спадзяванні самых блізкіх людзей. Ён вельмі любіў сваіх бацькоў, хоць з іншага боку іх герайчнае мінулае накладала на яго пэўны комплекс сваёй меншай вартасці. Дзіму вельмі любілі таксама сябры яго бацькоў — вязні савецкіх канцлагераў. Ён быў гэткім сынам „гулагаўскага" камбатанцкага палка. Пра яго з вялікай цеплынёй гаварылі многія беларускія ветэраны.

Кісель у школьныя гады займаўся спортам, потым вучыўся і скончыў гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Зміцер Кісель быў у ліку таго дзесятка людзей, што пачыналі ў Гародні ў сярэдзіне 1980-х гг. адраджэнне беларушчыны. І гэта факт, як кажуць, гістарычны. Можна прыгадаць яго чынны ўдзел у выпуску легендарнай газеты „Рэанімова", заснаванні ў Гародні Беларускага народнага фронту, адраджэнні Грамады, журналісцкую працу ў „Пагоні" і беластоцкай „Ніве", удзел у выбарчых кампаніях, шматлікія палітычныя акцыі і грамадскія справы, у ліку якіх найперш аднаўленне магілы Віктара Каліноўскага ў Свіслачы, вяртанне памяці пра Ларысу Геніюш. Пры тым сам Зміцер рэдка выходзіў на першы план. А яшчэ Кісель адным з першых наладжваў сяброўскія стасункі паміж беларусамі Беласточчыны і сумежнай Гарадзеншчыны.

Усе заваёвы беларускага руху трымаліся і трымаюцца на летуценніках і рамантыках. Такія людзі аддаюць без шкадавання ўсе сілы нацыянальнаму Адраджэнню! Яны папросту не могуць жыць інакш, ашчаджаць сябе „на заўтра". І многія літаральна „згараюць". Прыблізна так здарылася і са Зміцерам Кісялём. Ён, нягледзячы на свой асабісты надлом (які быў, на маю думку, найперш вынікам нашай агульнанацыянальнай грамадскай бяды), застаўся верным справе Беларускага Адраджэння, за якое шчыра хварэў душой. Не губляў сваіх поглядаў і пазіцый. Сімвалічна, што свой апошні публіцыстычны артыкул пісаў пра бел-чырвона-белы сцяг...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Печ у лесе

Было гэта недзе ў пачатку пяцідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя. Тады Валодзю было прыблізна шэсць гадоў і яшчэ не хадзіў ён у школу. Была восеньская пара. Гаспадары ўжо пакапалі бульбу, пасеялі жыта на зіму. Усе плёны з поля і агародаў спраталі і гатовіліся да зімы. Зімы былі тады снежныя і марозныя. Жыллёвыя і гаспадарчыя будынкі ў вёсцы Сухінічы былі ў той час драўляныя і крытыя саломай. На восемдзесят гаспадароў мураваная хата была на выгане — у Міхала Рудніцкага. Была тады такая мода, а і бясспрэчная патрэба ацяпляць на зіму хаты, а хто меў чым і хацеў — хлявы, таму на зіму рабілі загату. Проста сцены абкладвалі саломай, быльнікам, а часта і галінамі з яліны (прыгожа выглядала ды прыемна пахла).

У той дзень была харошая пагода, свяціла сонейка, снегу яшчэ не было, аде прымаразак хапіў. На ранку тата Язэп сказаў, што паедзе ў гарчацкі лес па яліну на загату. Калі малы Валодзя гэта пачуў, то стаў прасіць тату забраць яго з сабою. „А што ж ты мне паможаш?” — сказаў тата, але малы так учапіўся і не адставаў, што ўрэшце бацька згадзіўся. Адзелі хлопца — як на зіму — у чаравікі і паўшубак (павалочкай званы), шапку-вушанку ды рукавіцы з воўны сваіх авец, якія мама Саша сама зрабіла. Запрэглі ў жалезны воз на развалах кабылку Малку, узялі торбу з аброкам кабыле, а сабе па куску хлеба і саланіны, селі на воз і паехалі. Ехалі дарогаю, якая вяла ў Саколку. Перад Пачывальнаю гарою звярнулі направа — у лес. Тата выбраў па сваёй думцы добрае месца, дзе расло многа елак і затрымаўся. Павесіў кабыле на галаву торбу з аброкам, узяў сякеру ды стаў церабіць елкі.

— А што я буду рабіць? — спытаўся малы.

— Пабегай, пахадзі, паглядзі на лес, толькі далёка не аддаляйся ад фурманкі, — параіў бацька.

Валодзя трошкі пахадзіў туды-сюды, але паглядзеў, як тата працуе, і ён захацеў стаць патрэбным і штосьці рабіць.

— Тата, дайце мне штосьці рабіць.

— Стань пры кабыле, вазьмі за повад і пільнуй, каб куды не пайшла.

Хлопчык стаў выконваць татаў загад. Кабылка ела свой аброк, стала пырхаць, круціць галавою, грабці капытамі. Малы пільнаваў яе, угаворваў, каб была спакойная. І так праз нейкі час хлапчыне стала рабіцца холадна штораз больш і больш. Праўда, тата пытаўся: „Не холадна табе?”, але ён не прызнаваўся і мёрз мацней і мацней. Бо як прызнаешся? „Тату не холадна, а мне? Тата стары, а я малады, дык што — я гаўняк? Праўда, тата расказваў, як у сваёй маладосці быў у бежанстве ў Сібіры і якія там былі маразы. А я ж яго сын — значыць, не горшы”, — так меркаваў у думках малы. Дайшло да таго, што холад пачаў заходзіць у занагці і сталі качанець рукі. Не вытрымаў і заплакаў. Тата спытаўся:

— Што табе, Валодзенькa? Есці хочаш? Ці можа ехаць дахаты?

Тады наш „герой” прызнаўся і „бэкнуў”:

— Мне холадна!..

— Сынок, слухай, — сказаў тата, — тут у лесе ёсць печ, і калі хочаш, можаш пагрэцца.

Толькі малы не мог уявіць, паняць, дзе тая печ ёсць, калі яе сапраўды няма. „Тата смяецца з мяне!” — і стаў зноў плакаць. Тады тата падышоў і сказаў:

— Не плач, сынок, глядзі, як многа нацерабіў я галін. Хадзі, памагай мне цягаць іх да воза.

Хаця спачатку неахвотна, стаў сынок цягаць галіны, трошкі меншыя чым насіў тата. Пасля цягаў хутчэй, навыперадкі з татам. Неўзабаве стала рабіцца цяплей і цяплей, так што скінуў рукавіцы, пасля і павалочку. Работа гарэла ў руках, а са спіны валіла пара.

Яловыя галіны паклалі на воз, прыціснулі жэрдкаю і ўвязалі вужышчам. Заехалі на падворак, зачынілі вароты. Тата выпраг кабылу, упусціў у хлеў і абодва мужчыны ўвайшлі ў хату. Мама наліла гарачага булёну. Малы еў, аж вушы трасліся (бо таго сала і хлеба ў лесе не елі — часу не было). Тата хваліў за работу, а хлопец ганарыўся, што ў чымсьці прыдаўся і ўсміхаўся пад носам з „лясной печы”.

На другі дзень тата рабіў загату. Памагаць ізноў узяў сынка. Тата прынёс жэрдкі — доўгія яловыя калы. Забіваў іх у зямлю, а гарою мацаваў да латкаў. За такую канструкцыю запіхвалі галіны, укладвалі і цесна прыціскалі, аж да страхі, пакідаючы прастору на вокны. Такім чынам яловыя галінкі пагрэлі хлопца ў лесе, цэлую зіму грэлі хату, а вясною разабраную яловую загату спалілі ў печы.

Гэтым хлопцам быў я, гэта здарылася сапраўды. Я цяпер ужо Уладзімір і дзядуля. Калі ўспомню тое здарэнне — усміхаюся. Гэтая навука „не пайшла ў лес”, бо пасля гэтага ў вялікія маразы хадзілі мы з другам на лыжы, ніколі доўга не стаялі — былі ў руху. Калі рабілася холадна ў рукі — скідалі рукавіцы, націралі снегам і надалей ездзілі — „на акорд”.

**Уладзімір ЦІЛЮЛЬКА**

9 ☞ працяг

# Надзейнае Партнёрства: культура!

— Яшчэ адной праблемай у пабудове моцнай культуры ў вымярэнні Усходняга партнёрства з'яўляецца тое, што сама праграма Усходняга партнёрства мала вядомая ў Беларусі, і на самай справе цалкам невядомая. У мінулым месяцы сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя незалежным Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў паказалі, што 86% насельніцтва Беларусі нічога не ведае аб праграме Усходняга партнёрства.

У заключэнне сказаў:

— Культура ўяўляе сабой крок у напрамку спазнавання свайго нутра. Без гэтага наша чалавецтва непазбежна будзе страчаным. У той жа час гэта яшчэ і крок, які мы робім па адносінах да іншых людзей. Гэта магутная цэнтрабежная сіла, у той час інтэграцыйная. Калі гэта так, то як Усходняе партнёрства можа ўзнікнуць без моцнага культурнага вымярэння?

У канцы абмеркавання трохдзённых дэбатаў іх удзельнікі прынялі агульную пазіцыю: «Палітычны праект, якім з'яўляецца Усходняе партнёрства, у цяперашні час мае шанцы на новы воблік. Прапануем шырэйшае яго разуменне як адважнага культурнага праекта, які разглядае ўсходніх суседзяў у суб'ектыўны і партнёрскі спосаб, чэрпаючы сілы з ініцыятыў знізу, таксама адкрыты на супрацоўніцтва з краінамі па-за межамі ЕС і УП. Усходняе суцпрацоўніцтва мае тры ўзроўні ўзаемадзеяння: еўрапейскае, нацыянальнае і рэгіянальнае. Мы хочам падкрэсліць ключавую ролю суседскага, рэгіянальнага аспекту супрацоўніцтва — укаранелага ў канкрэтных месцах і супольнасцях, ставячага акцэнт на арганічную працу, чулага на разнастайнасць і адменнасць культур. Блізкае нам шырокае разуменне культуры, якая паважае спадчыну, але і ў тым ліку ахопліваючае грамадскае прыцягненне, бесперапынную выхаваўчую працу, хоць і без боязі рызыкі творчага мастацкага даследавання. Такая праца патрабуе стварэння і падтрымкі новых прастор для культурнай працы на аснове доўгатэрміновага працэсу стварэння грамадскага капіталу. Праз культурнае вымярэнне УП, еўрапейская палітыка суседства і дэбата на тэму еўрапейскай супольнасці будзе набіраць аўтарытэту і дынамікі».

*(працяг будзе)*

# 26.05 — 01.06

**(22.03. — 20.04.)** Твая форма будзе горшай чым на пачатку мая; добра высыпайся. Але тыдзень прадвяшчае поспехі і новыя знаёмствы. Варта зрабіць невялікае падарожжа або падацца ў службовую камандзіроўку. У сераду выканай свае абяцанні і расплаціся. У пятніцу атрымаеш прыбытак ад справы, у якую ўклаў шмат часу і сродкаў.

**(21.04. — 21.05.)** Да 27.05. варта перастаць скрываць свае пачуцці. Дома не пасպрачайся, бо выбухне грамадзянская вайна! Будзеш ласкомы, разленаваны, неахвотны да якіх-небудзь дзеянняў. Ды глядзі: 26-30.05. павінна ўсміхнуца да цябе шчасце! І маеш шанц пазбыцца часткі сваіх комплексаў і таго, што цябе скоўвала.

**(22.05. — 22.06.)** 25-29.05. зоркі дазволяць табе злавіць вецер у ветразі. Можаш пазнаёміцца з цікавымі людзьмі. Шыкуйся да раманаў! Набярэш сілы да дзеянняў, падгоніш „хвасты”. Не слухай кепскіх дарадчыкаў. Ды 29-31.05. пагражае табе хандра, кепскі настрой, можаш атрымаць нямілыя інфармацыі, ды, калі пастараешся, удасца табе пакарыстацца імі.

**(23.06. — 23.07.)** 25-30.05. чакае цябе цудоўны час, поўны аптымізму і новых шанцаў, у тым ліку фінансавых. Твой найлепшы дарадчык — уява і інтуіцыя. Але можаш цяжка адпакутаваць свае дыетычныя памылкі. У апошні дзень мая можаш вырашыць штосьці важнае, і ўдасца гэта паспяхова зрэалізаваць.

**(24.07. — 23.08.)** Набярэш адвагі да любоўных прызнанняў. Калі ўжо носіш пярсцёнак, дома поўнае шчасце і гармонія. Рэалізуй важныя справы. У кар'еры ідзі ўперад (магчымасць павышэння). Але 25-28.05. час спрыяючы непаразуменням, памылковым ацэнкам людзей і падзей.

**(24.08. — 23.09.)** Ненайлепш — у здароўі, аслабленне, а ўрэдныя хваробішчы цікуюць! Асабліва глядзі на тое, што ясі. 25-29.05. бярыся за доўгатэрміновыя планы — зоркі будуць ім спрыяць. Лёс дасць табе новы шанц. Могуць адкрыцца перад табою магчымасці, якіх ты доўга чакаў. Не абмінуць цябе таксама сюрпрызы. У сераду магчымы негатыўны ўплыў на цябе тых, што жывуць у тваім доме.

**(24.09. — 23.10.)** 25-28.05. вельмі пільнуйся з тым, што будзеш есці. Будзеш стомлены і знерваваны. Лепш няхай ніхто не кажа што маеш рабіць! Добра плануй хатні бюджэт, пааплачвай усе рахункі. Прыйдзецца быць майстрам кампрамісаў. Але няблага з бізнесам, магчымыя прэміі.

**(24.10. — 22.11.)** 26-30.05. зоркі падтрымаюць цябе сваім спрытам, а таксама падкінуць вырашэнні некалькіх праблем. З бізнесавых кантактаў вынікнуць у будучыні самыя добрыя рэчы. Можа, больш цікавыя прапановы супрацоўніцтва? Або падтрымка ў стараннях за фінансавыя датацыі або ў павышэнні? Але цяпер не інвестуй.

**(23.11. — 22.12.)** 25-29.05. — добры час на сустрэчы з сябрамі, падарожжы, наладжванне новых кантактаў, працэдуры з валасамі. Магчыма, спадабаешся камусьці, з кім табе добра размаўляецца. Да 28.05. дома няладна з негацыяцамі і супольнымі вызначэннямі. 26-30.05. Венера пастараецца, каб табе спрыяла шчасце; будзеш ахвотна дапамагаць іншым.

**(23.12. — 20.01.)** Можаш адчуць пагаршэнне формы, ды на ніштo больш сур'ёзнае не будзеш наракаць. Толькі не еж тлустага і не выпівай. І будзь асцярожны з вадой. 25-29.05. будуць палагоджаны спрэчкі. Навокал цябе прыхільныя людзі, ахвотныя да дапамогі.

**(21.01. — 19.02.)** Старайся не адставаць. Пільнуйся пры пакупках, лепш не падпісвай дамоў — можаш праваронiць важныя дэталі. Старайся не прапускаць мерапрыемстваў, бывай у людзях, будзь актыўным і ініцыятыўным. У аўторак не кантактуйся блізка з канкурэнтамі і ворагамі, не заключай сумніўных кантрактаў.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** 26-30.05. шыкуецца для цябе мноства новых уражанняў і шалёных прыгод. Востра дзейнічай у сваёй кар'еры, але не заяўляй гучна аб сваіх справах і поглядах. Будзеш квітнець і ачароўваць кожнага. У сераду аддай больш увагі дзецям.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. паўсядзённае жыццё = 4 _ 16 _ 19 _;
2. кантора = 15 _ 14 _ 17 _ 18 _;
3. адтуліна для ўваходу экіпажа ў сярэдзіну машыны = 10 _ 6 _ 7 _;
4. румынская грашовая адзінка = 13 _ 12 _ 11 _;
5. гаспадарчае збудаванне для жывёлы = 1 _ 2 _ 3 _ 9 _;
6. роў, лагчына = 8 _ 5 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | | 17 | 18 | 19 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 16 нумара**

Вакх, маэстра, Поці, Сіям, Туск, Нарва, трыбун, маца, рагу, цэль, ныцік, Уіпл, сем, друг, сак, паж, вы, Ітан, хол, кошт, ААН, Алі, знаўца, цунамі, сінь, Уайт, джын, адзенне, кран, сі, Нява, Тыбет, табу, яд, бонза, Асвея, мяшок.

Рашэнне: **Калі растраціць скарбы хто усе, другія спажывуцца іхнім коштам, а калі зынікнуць суджана красе, яна ў нябыт адыдзе занівошта.**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

■ Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Новае свята ў Кудаку архімандрыта Гаўрыіла



**Першай знаёмай асобай, якую я сустрэла ў Кудаку, быў тэлерэжысёр Юры Каліна. Ён стаяў у элегантным касцюме ў цяні пад ліпай і ўзіраўся на 800-метровую кладку, па якой няспынным патокам перамяшчаўся народ. Многіх паломнікаў паклікаў сюды славуты фільм „Архімандрыт”, шэдэўр, які заваяў прызнанне на міжнародных фестывалях. І зараз Юры атрымаў запрашэнне на фестываль у Хабараўск:**

— Але пакуль не вырашыў ці туды ехаць, — кажа, — чакаю добрай весткі ад арганізатараў, якія вяртаюць кошт падарожжа толькі лаўрэатам.

Другой вядомай і віднай асобай быў прафесар Антон Міранові́ч. Славуты гісторык пераапрануўся ў светлы сціхар, каб папоўніць рады прыслужнікаў мітрапаліта Савы. Прафесар Мірановіч — фундатар каплічкі ў гонар св. Антонія Пячэрскага, да якой выстойвала доўгая чарга паломнікаў. Усе хацелі пакланіцца іконе і запаліць свечку стагоддзямі шанаванаму ў наваколлі мясточка Нарва святому. Менавіта прафесар Антон Мірановіч адшукаў звязаныя з Адрынкамі гістарычныя крыніцы культу святога Антонія, якія сягаюць пачатку XVI стагоддзя. Сёння з рук мітрапаліта даследчык атрымае медаль Марыі Магдаліны другой ступені.

Трэцяй сустрэтай у Кудаку асобай быў Міхал Аляксейчык, былы генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Гданьску і Беластоку.

— А вы тут якім чынам папалі? — пацікавіліся мы.

— А я прыехаў на Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўку і, калі дведаўся пра свята, сеў у машыну і прыехаў.

За гады сваёй місіі ў Польшчы Міхал Аляксейчык прыдбаў пашану і любоў многіх беларусаў, найперш з атачэння Праваслаўнай царквы. Калі мы спыталі як праводзіць час на пенсіі, у адказ пачуліся простыя словы на натуральнай беларушчыне:

— Будую царкву і займаюся агародам.

* * *

— З нагоды праваслаўнага жаночага свята, якое ў гэты раз адзначалі 19 мая, у міраносную нядзельку, мітрапаліт Сава павіншаваў усіх жанчын. Першаіерарх наведаў урочышча Кудак, што ў гміне Нарва, каб тут асвяціць новую царкоўку ў гонар святых Антонія і Феадосія Пячэрскіх. Каб ушанаваць працу соцень людзей, якія спрычыніліся да адраджэння месца, ён прывёз дзесяткі медалёў і 120 ганаровых грамат. Медалі Марыі Магдаліны другой ступені атрымалі, між іншым, архімандрыт Гаўрыіл і Васіль Піўнік, спонсар будынка. У час узнагароджвання нечакана ўразіў архімандрыт. Сваю адзнаку ён аддаў Яўгенію Скаўронскаму, чалавеку, які хадзіў па востраве са скрынкай і збіраў грошы на скіт.

— Бо гэта наш міністр скарбу, — паясніў, — і ён тут робіць найбольш канкрэтную справу.

За дваццаць апошніх гадоў у беларуска-падляшскім асяроддзі я ведаю толькі адзін выпадак, калі прэстыжная ўзнагарода была перададзена і сэнсоўна апраўданая. Жэст уражваў яшчэ таму, што супрацьстаяў сучаснай модзе. На сённяшні дзень прага атрымаць узнагароду з'яўляецца самай вялікай матывацыяй да дзеяння.





Архімандрыт Гаўрыіл уразіў і захапіў мяне яшчэ два разы, калі вітаўся з народам па-славянску, беларуску і грэчаску. На яго словы „Хрыстос Уваскрос!”, пачуўся адказ ад народу „Сапраўды Уваскрос!”. А калі ён прамовіў да людзей па-беларуску, пані Марыся Андраюк з Бельска, убачыўшы недавер у вачах сяброўак, адразу ім з радасцю талкавала і паясняла: *Бачыце! Гэта ж па-беларуску.*

* * *

Сёння, калі я дзень пасля паломніцтва ў Кудак пішу гэтыя словы, не магу астыць ад захаплення перажытым і пабачаным. У сваёй духовасці свята напамінала мне парафіяльныя фэсты з дзяцінства. Найперш таму, што людзі, старыя і маладыя, амаль усе размаўлялі на сваёй этнічнай мове. Сярод паломнікаў гучалі дыялекты ад Міхалова, Орлі, Нараўкі ці Бельска. Гаспадар святога вострава задбаў, каб усе паломнікі з'елі абед, падрыхтаваны яго жанчынамі-міраносіцамі. Дарэчы, адкрытасць, сардэчнасць і гасцінасць сустракаліся тут на кожным кроку. Згодна з народнай традыцыяй мы пайшлі ў гасціну да сябры за рэчкай (у Рыбакі), які пачаставаў нас араматнай кавай і філасофскімі разважаннямі пра свет раслін. Менавіта ўрочышча Кудак, дзе асвяцілі царкоўку, з-за дзікай прыроды можна назваць самым прыгожым куткам на Падляшшы. Яго існаванне і захаванне залежыць аднак ад духовай і матэрыяльнай аховы. У час багаслужбы архімандрыт Гаўрыіл звярнуўся да людзей за дапамогай, каб разам збудаваць агароджу вакол скіта, якая хоць крыху запыніць атакі на святое месца. І дадаў:



— У апошні час гэта так нарасло і набрыняла, што мусова супрацьдзейнічаць, змагацца...

ISSN 0546-1960